…ачанка

# Хто такія беларускія «патрыёты»?

Бібліятэчка газеты «Голас Радзімы»

Іван САЧАНКА

# Хто такія беларускія «патрыёты»?

Мінск, 1975

# ДА ЧЫТАЧА

*Спакон веку злачынства і хлусня існуюць разам. Здраднік, разбойнік, злодзей, злоўленыя на гарачым учынку, заўсёды хлусяць: першы кажа, што ён таксама ненавідзіць здраду, другі вінаваціць сваю ахвяру, трэці сцвярджае, што не краў. Так яны ратуюцца ад непазбежнай кары і суда грамадскасці.*

*Злачынствы бываюць малымі, нязначнымі, буйнымі, хлусня ж заўсёды застаецца вялікай. Так бывае не толькі ў паўсядзённым жыцці, але і ў палітыцы, таму што палітыку робяць людзі са звычайнай чалавечай псіхалогіяй. Палітычныя злачынствы, аднак, маюць тую асаблівасць, што вялікая хлусня, якая іх суправаджае, прымае выгляд прапаганды. Да прапаганды ж, асабліва калі яе настойліва вядуць сучасныя сродкі масавай інфармацыі, людзі адносяцца больш асцярожна і ўважліва, чым да маны звычайнага крыміналыніка. Вось чаму выкрываць палітычную хлусню і цяжэй, і патрэбней — яна ўздзейнічае не на адзінку, а на масы людзей.*

*Здрадзіўшы свайму народу і пайшоўшы на службу нямецкаму фашызму, беларускія буржуазныя нацыяналісты ўчынілі шмат злачынстваў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Адны з іх панеслі заслужаную кару ад рук партызан, другія — на лаве падсудных, трэція*

*пазбеглі прыгавору і, уцёкшы з Беларусі разам з фашыстамі, захавалі жыццё і дажываюць свой век на Захадзе. І вось гэтыя апошнія вядуць зараз хлуслівую прапаганду аб тым, нібыта яны былі не здраднікамі, а патрыётамі, не забойцамі, а абаронцамі беларусаў, не паслугачамі, а праціўнікамі фашыстаў. Чаму яны так гавораць? Па-першае, таму, што намагаюцца загладзіць сваю віну перад беларусамі як за мяжой, так і на Радзіме, перад грамадскасцю тых краін, дзе яны знайшлі прытулак, і нават перад уласнымі дзецьмі, якія нічога не ведаюць аб крывавых справах сваіх бацькоў; па-другое, нацыяналісты выконваюць антыкамуністычныя і антысавецкія заданні імперыялістычных цэнтраў і таму імкнуцца ўвайсці ў давер беларусаў.*

*Былы фашысцкі бургамістр, а зараз рэдактар нью-йоркскага «Беларуса» Ст. Станкевіч піша, быццам нацыяналісты «ў абставінах акупацыі баранілі, як маглі, беларускае жыхарства перад крывавым тэрорам як з боку гітлераўцаў, гэтак і савецкіх партызанаў». Злачынствы здраднікаў у час вайны ён называе «нацыянальнай дзейнасцю беларускіх патрыётаў». Хлусня, годная злачынцы! Што датычыць самых бессаромных актаў здрадніцтва, то нацыяналісты нават не прызнаюцца да іх. У той жа газеце Ст. Станкевіча, напрыклад, гаворыцца, што яны не называлі беларусаў «абруселым арыйскім племем», што яны з дазволу гаўляйтэра Кубэ не адкрывалі ў Мінску фашысцкай «акадэміі навук» і г. д.*

*У брашуры, якая прапануецца ўвазе чытача, кандыдат філалагічных навук Іван Сачанка, карыстаючыся дакументамі і фактамі, абвяргае хлусню нацыяналістаў. Ён пераканаўча паказвае: вось што яны рабілі і пісалі ў час вайны, вось што яны гавораць і чаго хочуць зараз. І з гэтага расказа аўтара выяўляецца сапраўдны твар так званых беларускіх «патрыётаў».*

«Дарагія землякі!..» Такімі словамі звычайна пачынаюць радыёперадачы мюнхенскай «Свабоды» беларускія буржуазныя нацыяналісты. Не шкадуючы прыгожых слоў, «дарагія землякі» на старонках сваіх газет і часопісаў клянуцца ў вернасці і любві да беларускага народа. Даўно ўжо, а ў сувязі з 30-годдзем разгрому фашызму асабліва, яны сцвярджаюць, нібыта таксама змагаліся за свабоду і незалежнасць Беларусі, быццам выкрывалі фашысцкую ідэалогію і акупацыйную палітыку Гітлера. Зараз гэтыя нібы патрыёты ствараюць камітэты для ўшанавання сваіх нацыяналістычных «ветэранаў» і «герояў» вайны, склікаюць з'езды, наладжваюць сімпозіумы і многія іншыя ўрачыстасці, прысвечаныя «подзвігам баёвых адзінак» так званай «Беларускай краёвай абароны». У артыкуле «Сусветны з'езд беларускіх ветэранаў», апублікаваным у «Беларусе» [1], Кастусь Акула напісаў, на-

[1] «Беларус» № 199, 1973.

прыклад, што ў Манчэсцеры будуць урачыста адзначацца 30-я ўгодкі гэтай самай «Краёвай абароны». Акула заклікаў усіх тых, хто ў гады вайны служыў у розных вайсковых адзінках на баку гітлераўцаў, успомніць свае былыя «подзвігі». Газета «Беларус» яшчэ ў 1973 годзе прапанавала «дарагім суродзічам — сябрам ветэранам» старанна рыхтавацца да «славутага юбілею», прысылаць долары і макеты помнікаў ветэранам вайны: «Помнік беларускім змагарам-героям... будзе помнікам па ўсіх беларусах без розніцы, як яны загінулі ў змаганні: са зброяй у руках, з пяром ці словам. Ён будзе напамінаць ахвярна пралітую кроў у змаганні за вызваленне Беларусі, за яе прэстыж у еўрапейскай сям'і вольных народаў» [1].

Нацыяналісты — былыя паліцаі і карнікі — крывадушна распісваюць «гераічную дзейнасць» у гады вайны розных іваноўскіх, казлоўскіх, акінчыцаў, станкевічаў, адамовічаў, заклікаюць «ветэранаў» пісаць манаграфіі, даследаванні аб «собскай» барацьбе за «вольную Беларусь». Яны абвясцілі нават конкурс на лепшае мемуарнае выданне. Пачытаць іх пісаніну, дык атрымліваецца, што былыя фашысцкія паліцаі, бургамістры і старасты з'яўляліся не актыўнымі памагатымі акупантаў, а «шчырымі і ахвярнымі змагарамі Бацькаўшчыны», «руплівымі абаронцамі

[1] «Беларус» № 196, 1973.

вольнае Беларусі». Сцвярджаючы так, яны, мабыць, думаюць, што прайшло 30 год і беларускі народ забыўся пра той суровы час выпрабавання на вернасць Радзіме, а попел спаленых паліцаямі і «баёвымі адзінкамі» «Беларускай краёвай абароны» соцень тысяч людзей развеяў вецер. Акрамя таго, на Захадзе ў апошні час выйшла мноства «навуковых» даследаванняў па гісторыі другой сусветнай вайны, дзе вучоныя фальсіфікатары апраўдваюць і нават вітаюць дзейнасць буржуазных нацыяналістаў.

Але ніколі беларускі народ не даруе гітлераўскім служакам крывавыя злачынствы, нішто не змые з яго памяці іх здраду. Жудасная памяць аб іх засталася ў кожнай вёсцы, у кожным пасёлку і горадзе.

«Вастрыня ідэйна-палітычнага змагання ў нацыянальным пытанні вымагае, зразумела, грунтоўнага азнаямлення з гісторыяй свайго собскага нацыянальнага адраджэння» [1], — піша ў газеце «Беларус» Я. Запруднік. Што ж, звернемся да гісторыі, да сапраўдных фактаў «гераічнага змагання» нацыяналістаў у тыя грозныя гады...

Яшчэ задоўга да нападу гітлераўскай Германіі на СССР беларускія нацыяналісты распрацоўвалі свае антынародныя планы з непасрэдным удзелам нацыстаў. Антон Адамовіч, Янка Станкевіч, Станіслаў Станкевіч, Вікен-

[1] «Беларус» № 183, 1972.

цій Гадлеўскі, Фабіян Акінчыц, Уладзіслаў Казлоўскі, Вацлаў Іваноўскі і іншыя верхаводы нацыяналізму пасля прыходу да ўлады Гітлера паспешна арганізавалі так званую «Беларускую нацыянал-сацыялістычную партыю» фашысцкага характару. Гэта партыя адкрыла ў Берліне пры міністэрстве ўнутраных спраў Германіі «Беларускае прадстаўніцтва». У яго ўвайшлі такія адпетыя здраднікі беларускага народа, як Канстанцін Езавітаў, Васіль Захарка, Фабіян Акінчыц, Мікалай Шкялёнак, Вацлаў Іваноўскі, Мікалай Абрамчык, Радаслаў Астроўскі і іншыя. «Беларускае прадстаўніцтва» ў 1939 годзе арганізавала камітэт, на першы погляд, пад бяскрыўднай назвай — «Беларускі камітэт самапомачы». Узначалілі яго Астроўскі, Абрамчык і Ермачэнка. Гэты «камітэт» пры дапамозе фашыстаў адкрыў у многіх краінах Еўропы свае філіялы дзеля вярбоўкі беларусаў-эмігрантаў і падрыхтоўкі іх у спецыяльных нямецкіх школах для шпіёнскай і дыверсійнай работы на тэрыторыі Беларусі. Напярэдадні нападу Германіі на СССР «Беларускі камітэт самапомачы» на сродкі фашыстаў выдаваў у Берліне газету на беларускай мове «Раніца», якая распаўсюджвалася ў Варшаве, Празе, Вене, Лодзі, Будапешце, Браціславе і іншых гарадах. «Раніца» сістэматычна друкавала артыкулы паклёпніцкага характару на нацыянальную палітыку СССР, сацыялістычны лад жыцця, скалачваючы, та-

кім чынам, вакол сябе белагвардзейшчыну, кулацкія элементы, якіх рэвалюцыя вымела з тэрыторыі БССР. Пазней, вярнуўшыся ў нямецкім абозе ў Беларусь, нацыяналісты станавіліся памагатымі Гітлера — старастамі, бургамістрамі, паліцэйскімі, шпіёнамі, дыверсантамі і сумесна з акупантамі знішчалі мірнае насельніцтва.

У красавіку 1939 года так званы «прэзідэнт» Рады БНР Захарка напісаў клятву вернасці беларускіх нацыяналістаў Гітлеру, у якой праслаўляў захопніцкія планы фюрэра і запэўніваў яго, што Рада гатова падтрымаць узброены напад на СССР.

Яны стрымалі сваё слова.

Як толькі нямецкія арміі ўварваліся на тэрыторыю Беларусі, сюды заявіліся і прадстаўнікі Рады. Каб падавіць гераічнае супраціўленне беларускага народа акупантам, яны пачалі ствараць адну за адной антысавецкія арганізацыі. Узніклі «Беларускае культурнае аб'яднанне», «Беларускае навуковае прадстаўніцтва», «Беларуская народная самапомач», «Саюз беларускай моладзі» і некаторыя іншыя. Гэтыя арганізацыі выдавалі ў Мінску «Беларускую газэту», «Голас вёскі», часопісы «Новы шлях», «Жыве Беларусь», «Беларус на варце». У Берліне працягвалі выходзіць «Раніца», бюлетэнь «Беларускі работнік», у Баранавічах друкавалася «Баранавіцкая газета», у Беластоку — «Новая дарога», у Віцебску — «Беларуская

старонка», якая, між іншым, каб прыцягнуць да сябе ўвагу насельніцтва, мяняла назвы: то «Новый путь», то «Витебские известия», «Витебские ведомости». Выходзілі на тэрыторыі Беларусі таксама газеты і часопісы на нямецкай мове: «Мінскер цайтунг», «Сігнал», «Мілітарышэ карэспандэнц аўс Дойчланд» і іншыя.

Для планамернай і пастаяннай прапаганды на старонках гэтага друку антысавецкай фашысцкай палітыкі, намеснік Гітлера ў Беларусі Вільгельм Кубэ назначыў пры сваёй канцылярыі шэфамі па прапагандзе і друку Гадлеўскага — ксяндза, які з прыходам фашыстаў змяніў крыж на парабелум, і Адамовіча.

Што ж пісалі нацыяналістычныя памагатыя гітлераўцаў у сваім друку?

Ф. Аляхновіч, Ф. Акінчыц (друкаваў свае артыкулы пад псеўданімамі Булат, Асавецкі, Пінчук, Полацкі, Баброўскі), У. Іваноўскі, У. Казлоўскі, А. Адамовіч, В. Гадлеўскі, С. Станкевіч, Н. Арсеньева і іншыя сталі «тэарэтычна» даказваць, што нібыта «беларус у расавых адносінах не адрозніваецца ад немца», як, скажам, «баварац ад саксонца», што «беларусы і немцы ў далёкай мінуўшчыне — адзінае маці дзеці» і таму з'яўляюцца арыйцамі, братамі немцаў.

Старшыня «Саюза беларускай моладзі» Міхаіл Ганько ў часопісе «Жыве Беларусь» пісаў: «Беларускі народ далучаецца да Еўро-

пы і бярэ на сябе місію быць усходняй манархіяй арыйскага Захаду. У маладых душах трэба сцерці сляды матэрыялізму і асвятліць іх агнём ідэалізму... арыйскага паходжання. Малады беларус павінен сказаць сабе: «Я беларус, у маіх жылах плыве кроў арыйскіх прашчураў, і я буду такім, якім мяне стварыла прырода» [1].

Падобных прыкладаў можна прывесці шмат. Цікава, аднак, што ўслед за артыкуламі пачалі з'яўляцца і аб'ёмныя «навуковыя працы», «даследаванні» аб «кроўнай сувязі беларусаў з немцамі». Язэп Найдзюк, надрукаваўшы шмат артыкулаў у «Беларускай газэце», «Голасе вёскі», часопісе «Новы шлях», у 1943 годзе абагуліў свае «навуковыя адкрыцці» ў кнізе пад назвай «Беларусь учора і сёння» [2]. У ёй здраднік выхваляў акупацыю немцамі Беларусі, а крывавы фашысцкі тэрор называў не чым іншым, як «вызваленнем», «шчаслівым адраджэннем беларускай нацыі». Пад аховай нямецкага меча Адольфа Гітлера і кіраўніцтвам нямецкае ўлады, пісаў Я. Найдзюк, ён (беларускі народ) шчасліва развіваецца да новага жыцця. Будучы адзіным у расавых адносінах з германцамі, беларускі народ мусіць адраджаць сваю культуру, гаспадарку і быць роўным і адзіным з руплівым нямецкім кіраў-

---

[1] «Жыве Беларусь» № 1, 1943.
[2] Кніга выйшла ў Мінску ў 1943 годзе.

ніцтвам [1]. Гэты «спецыяліст» па гісторыі Беларусі даводзіў, што тэрыторыі, заселеныя беларусамі, з'яўляюцца радзімай арыйцаў, якія ў далёкія часы перасяліліся на Эльбу і Рэйн і «сфарміраваліся паступова ў вялікі нямецкі народ», а астатняя частка — «у абрусела беларусаў». У артыкуле «З гісторыі Беларусі» Я. Найдзюк даказваў: «Радзімай арыйцаў была Беларусь, Міншчына і Піншчына ў прыватнасці... Беларусы належаць да сям'і народаў арыйскага паходжання» [2]. Такія «адкрыцці», на думку акупантаў, павінны былі вывучацца ў школах.

Асабліва назойліва рэкамендавалася для чытання па «грамадазнаўству» кніга В. Ластоўскага «Што трэба ведаць кожнаму беларусу», якая выйшла ў 1943 годзе ў Мінску [3]. Ластоўскі даказваў «кроўную сувязь» беларусаў з арыйскай расай: «Відавочным знакам гэтай кроўнай сувязі быў чырвоны колер крыві, — даводзіць аўтар. — Дзеля гэтага аж дагэтуль чырвоны колер з'яўляецца ўлюбёным і пераважным колерам ва ўсім беларускім народным мастацтве» [4]. У раздзеле кнігі

[1] Я. Найдзюк. Беларусь учора і сёння. Мінск, 1943.

[2] «Беларуская школа» № 2, 1942, ч. 2, стар. 17.

[3] В. Ластоўскі памёр у 1938 годзе. Трэба думаць, што кніга напісана ім да смерці і перавыдадзена здраднікамі ў 1943 годзе, або напісана гітлераўскімі памагатымі ў часова акупіраваным Мінску і выдадзена ад яго імя.

[4] В. Ластоўскі. Што трэба ведаць кожнаму беларусу. Мінск, 1943, стар. 22.

«Пра сябе і свой народ» гэты завадатар беларускага буржуазнага нацыяналізму, «паглыбляючыся ў гісторыю собскага народа» і «грунтуючыся на навуковых адкрыццях, здагадках», пісаў: «Кожны сучасны культурны чалавек перш-наперш павінен ведаць, хто ён такі, якая ягоная мова, народ і край, дзе ён жыве, якая ягоная гісторыя. Ён ад малых дзён павінен умець ужо адказваць на самыя асноўныя пытанні, як прыкладам:

— Хто мы?

— Мы беларусы.

— Хто гэта беларусы?

— Беларусы — гэта народ арыйскае расы» [1].

Вядома, гітлераўскім акупантам былі да спадобы «адкрыцці», і яны віталі іх. Так, напрыклад, папулярны сярод эсэсаўцаў журналіст і гестапаўскі шэф «Саюза беларускай моладзі» Шульц пісаў, што перад «сябрамі немцаў» стаіць цяпер вялікая і важная задача — «дапамагчы нам перамагчы партызаншчыну». Дагэтуль, маўляў, рабілася ўсё, дзякуючы нямецкаму кіраўніцтву і ініцыятыве. Але рабілася, пісаў Шульц, з «няўдзячнасцю і дарэмна», таму трэба ўсямерна развіваць тэорыю арыйскага паходжання беларускага народа, якая «знішчыць партызанскі рух».

Фашысты і іх хаўруснікі дагаварыліся нават да таго, што Беларусь перайменавалі ў

---

[1] В. Ластоўскі. Што трэба ведаць,.. стар. 22.

«Беларутэнію», а беларускі народ у «абруселае арыйскае племя». Нездарма Вільгельм Кубэ ў час адной з гутарак з нацыяналістамі паабяцаў ім: «Нямецкае камандаванне хоча дапамагчы развіць так край, каб з яго стаў моцны і квітнеючы перадкрай Нямеччыны»[1]. Як кажуць, каментарыі тут не патрэбны.

Але беларускі народ не прыняў такой «ласкі» ад нацыяналістаў і іх гітлераўскіх натхніцеляў. На барацьбу супраць здраднікаў узняліся беларускія савецкія пісьменнікі, публіцысты, дзеячы культуры. Гнеўны пратэст беларусаў гучаў па маскоўскаму радыё, з трыбун беларускіх і славянскіх мітынгаў, сходаў, са старонак газет, лістовак, адозваў. Беларускія пісьменнікі былі на пярэднім краі гэтай вострай барацьбы. З абурэннем выкрывалі яны рэакцыйныя планы памагатых Гітлера, выкарыстоўваючы ўсе сродкі масавай інфармацыі. Іх артыкулы, памфлеты, фельетоны наскрозь прасякнуты нянавісцю да фашысцкіх наймітаў. Самаадданая барацьба паэтаў і празаікаў з прапагандай і крывавымі планамі нацыяналістаў у многім, вядома, дапамагла беларускаму народу распазнаць іх антынародную сутнасць.

У цікавым артыкуле «Здраднікі» Якуб Колас звяртаецца да вядомай сірыйскай легенды пра лютага разбойніка Дэмір Кая. Пісьменнік расказвае, што Дэмір Кая загубіў

---

[1] ЦДАКР БССР, ф. 871. в. 1, а. з. 16, л. 92

многа людзей, многа праліў чалавечай крыві. Нарэшце, не вытрымаў Дэмір Кая цяжару свайго злачынства. Пралітая кроў цёмнай хмараю заслала яму душу. І стаў Дэмір Кая з усім жарам разбойніцкай душы каяцца ў сваіх злачынствах. Аддаў ён усё нарабаванае дабро бедным людзям, а сам пайшоў у пустэльню маліць Алаха дараваць яму грахі. Ён сустрэў пустэльніка, раскрыў перад ім усю сваю чорную душу. Пісьменнік расказвае далей, што пустэльнік даў было́му разбойніку абгарэлую палку, сказаўшы пры гэтым: «Калі гэта палка пусціць галіны, зазелянее, то гэта будзе азначаць, што Алах дараваў табе грахі». Якуб Колас апавядае пра тое, як доўгія гады маліўся Дэмір Кая, служыў людзям, рабіў ім дабро, без наракання зносіў іх крыўды. Час праходзіў, разбойнік пасівеў. З сумам пазіраў ён кожны дзень на палку: палка не распускалася. Аднойчы ў дарозе сустрэў Дэмір Кая чалавека, які ехаў вярхом на кані. Разбойнік заступіў яму дарогу, узяў каня за павады і хацеў напаіць халоднай вадой конніка і каня. Але коннік у злосці махнуў нагайкаю і моцна ўдарыў яго. Старая разбойніцкая кроў загаварыла ў жылах Дэмір Кая. Схапіў ён камень і шпурнуў яго ў галаву конніка. Пахіснуўся коннік і зваліўся на дол.

«О, што я зрабіў! — схапіўшыся за галаву, закрычаў у адчаі разбойнік. — Даруй мне, брат!»

Канаючы, коннік сказаў: «Такая, відаць,

воля Алаха. Гэта ён паслаў цябе сюды, каб пакараць мяне: я здрадзіў свайму народу і ехаў прадаваць яго ворагам».

I коннік сканаў».

Якуб Колас расказвае далей, што разбойнік у роспачы паплёўся да сваёй палаткі. Усе свае турботы, малітвы, бяссонныя ночы разбурыў ён адным махам рукі, кінуўшы камень у галаву конніка. I вось, калі ён падышоў да сваёй палаткі і падняў вочы, то ўбачыў дзіва: уткнутая ў зямлю палка зазелянела і расцвіла! I зразумеў Дэмір Кая, што Алах дараваў яму грахі за тое, што ён знішчыў здрадніка.

З ідэйна-класавых пазіцый выкрываючы намеры нацыяналістаў, накіраваныя на дэнацыяналізацыю і зняволенне беларускага народа, Якуб Колас у артыкуле «Здраднікі» выводзіць дзве ідэйныя лініі, якія, на думку аўтара, ніколі не маглі зліцца ў адну — ідэалогію беларускага народа, які аказвае гераічнае супраціўленне гітлераўскім памагатым, рашуча адвяргаючы іх злосныя выдумкі аб «арыйскім паходжанні», і замаскіраванае, наскрозь прадажнае аблічча здраднікаў, якія, як піша Якуб Колас, узялі курс на немца, звязалі свой лёс з разбойніцкай немчурой і за чачавічную пахлёбку прадалі сваё сумленне. Гэтая супрацьлегласць і вызначае ў артыкуле ступені канфлікта. З аднаго боку, свяшчэнная нянавісць народа-змагара да гітлераўскіх наймітаў, з другога — ступень ма-

ральнага падзення «здраднікаў-іуд». І хоць нацыяналісты выступалі заадно з узброенымі да зубоў акупантамі, але на баку народа была лютая нянавісць, якая, на думку аўтара, «спаліць у сваім агні» гітлераўскіх прадажных валацуг. Іудавы ідэйныя патомкі, якія прадавалі фашыстам народ і гандлявалі яго крывёю, зазначае Якуб Колас, не мелі ніякага права называць сябе беларусамі, яны самі сябе «выкрэсліваюць з людской грамады».

У артыкуле «Здраднікі» Якуб Колас імкнуўся выкарыстаць як мага больш мастацкіх сродкаў і канкрэтных фактаў, каб яго твор выклікаў пагарду і нянавісць да здраднікаў, якіх на «сметніках людскога бруду, у падонках грамады адкапваюць нямецкія грабежнікі». Пісьменнік лічыў, што здраднікам стане і той, хто будзе дапамагаць гітлераўскім наймітам: «Злачынец перад Радзімай і народам і той, хто гасцінна накорміць ворага, хто жычліва пакажа яму дарогу і прытуліць яго да сваіх грудзей». Дзеля з'едлівага выкрыцця агіднага вобліку памагатых Гітлера народны пясняр іншы раз карыстаўся прастанароднай формай праклёну, з яго ярка выражанай эмацыянальнай экспрэсіяй: «Няхай аслепнуць тыя вочы, што з ласкаю глянуць на ката! Няхай адсохнуць тыя рукі і ногі, што добраахвотна дапамагаюць бандыту». Гэтыя радкі гавораць аб тым, як ненавідзеў здраднікаў народны пясняр, якая лютая нянавісць да іх заўсёды была ў яго сэрцы.

Крывавыя справы і прадажныя пісанні наймітаў Гітлера да глыбіні душы абуралі кожнага савецкага пісьменніка. І яны ў газетах «Савецкая Беларусь», «За Савецкую Беларусь», «За свабодную Беларусь», «Раздавім фашысцкую гадзіну», «Партызанская дубінка» змяшчаюць палымяныя памфлеты і артыкулы, фельетоны і адозвы, выступаюць з выкрывальнымі прамовамі па радыёстанцыі «Савецкая Беларусь», якая знаходзілася ў Маскве і вяла ў той час свае перадачы на беларускай мове. У выдатным памфлеце «Гаўляйтэр і яго падлізнікі» Кузьма Чорны гнеўна абрушваецца на подлага авантурыста У. Казлоўскага, які ў сваёй газеце «са скуры лез», усхваляючы ідэю «Беларутэніі» і «беларуса — абруселага арыйца», крывадушна крычаў аб новай Бацькаўшчыне, аб «нацыянальным адраджэнні». К. Чорны сцвярджае, што беларускі народ ніколі не адмовіцца ад сваёй нацыянальнасці, ад дружбы з рускім народам, не стане на калені перад крывавымі забойцамі.

Суровую водпаведзь ідэі «беларуса — абруселага арыйца» дае пісьменнік у памфлеце «Аб нашай гордасці». У ім — клопаты і перажыванні аўтара аб сваім родным народзе, які фашызм, колькі ні траціў сіл, усё ж не змог пакарыць.

К. Чорны зазначае, што, вярнуўшыся з-за мяжы, былыя памешчыкі і капіталісты крычаць цяпер аб «арыйскай нацыянальнасці» та-

му, што хочуць аднавіць паншчыну, няволю, сацыяльную несправядлівасць і прадаць народ чужаземцам. Менавіта дзеля гэтай мэты фашысцкім памагатым спатрэбілася валтузня вакол нацыянальнага пытання. І гэта ў той час, калі ў краі лілася кроў, калі лепшыя сыны беларускага народа траплялі на вісельні, калі гітлераўцы вынішчалі і палілі цэлыя вёскі. Менавіта ў гэты час нацыяналісты крычалі аб «адраджэнні Беларусі».

«Мы поўны пачуцця нацыянальнай гордасці, і іменна таму мы **асабліва** ненавідзім **сваё** рабскае мінулае...» [1] — пісаў У. І. Ленін. Гэта ленінская думка праходзіць праз увесь артыкул К. Чорнага, з'яўляецца асноўнай ідэяй твора. Ніколі і ніякія сілы не могуць выкрэсліць вялікага факта: «Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка!» Ніякім адшчапенцам, ніякаму здрадніку не дазволена выступаць ад імя народа і «прарочыць» яго лёс. Гэта вырашыць сама нацыя. «Немцы заяўляюць, — падкрэслівае аўтар, — што «Беларутэнія» гэта «нямецкі перадкрай», а беларусы, узрываючы нямецкія паязды і косячы нямецкія галовы, горда кажуць: тут Беларусь, мы — беларусы» [2].

Высокая нацыянальная годнасць адчуваецца ў кожным радку гэтага выдатнага публіцыстычнага твора: «У нас гордасць людзей, — піша К. Чорны, — якія жывуць з праў-

[1] У. І. Ленін. Творы, т. 21, стар. 84.
[2] «Савецкая Беларусь», 7 лістапада 1942 г.

дай у сэрцы і сілай у руках, а не ў тых адшчапенцаў, хто беларуса імкнецца перахрысціць арыйцам, а Беларусь — Беларутэніяй, не ў тых, хто ў Навагрудку піша: прыгожая дэкарацыя сцэны, на якой побач з нямецкімі сцягамі горда (!) павявалі нашы бела-чырвона-белыя штандары». К. Чорны з'едліва выкрывае сапраўднае аблічча здраднікаў: «Як стаіць свет, ад самых яго пачаткаў і да нашых дзён, ніякі мудрэц, нават з самай вострай фантазіяй, не мог уяўляць сабе гордасць абдрыпанага вераб'я, які стаіць побач з драпежным каршуном, у якога кіпці ў крыві».

Непарушнасць інтэрнацыянальнай еднасці сацыялістычных нацый, заваёў Кастрычніка аўтар сцвярджае з вялікай эмацыянальнай сілай у кожным радку: «Воляй Кастрычніка, я, магутны народ, жыву на сваёй зямлі, маю сваю традыцыю, за чвэрць Кастрычніцкага стагоддзя я ўсвядоміў сваю нацыянальную гордасць, маё імя за гэты час стала вядома ўсяму свету і ўсё гэта мой нацыянальны здабытак...»

Артыкул прасякнуты гонарам за родны народ, за сваю нацыю. І калі Уладзімір Ільіч Ленін з сарказмам гаварыў пра шайку «Раманавых, Бобрынскіх, Пурышкевічаў, якая ганьбіць нашу вялікарускую нацыянальную годнасць» [1], то К. Чорны з агіднасцю пісаў

[1] У. І. Ленін. Творы, т. 21, стар. 85.

пра тых нацыяналістаў, крыкуноў аб «шчаслівай Бацькаўшчыне пад аховай нямецкага нацыянал-фашызма», аб «адраджэнні беларускага народа пад крывавым ботам акупанта», якіх народ закляйміў суровымі словамі «здраднікі Радзімы». Дарэмна, заяўляе аўтар, дробная кучка адшчапенцаў спрабуе ўгаварыць беларусаў, што з пятлёй на шыі вельмі прыемнае нацыянальнае жыццё: «Не, не так, фашысцкае гадаўё! Беларускі народ ганарыцца тым, што ён мае, тым, хто ён ёсць, і ніколі на сваёй зямлі не будзе гасцінна сустракаць ворагаў. Беларус для самазванцаў рыхтуе вялікую магілу, дзе чужацкая навалач ляжа касцьмі».

У памфлеце «Вучоны жулік» Міхась Машара паставіў задачу выкрыць аднаго з самых заядлых правакатараў і аўтараў «расавай тэорыі» Янку Станкевіча. Карыстаючыся тонкай іроніяй і лагічнай паслядоўнасцю пры аналізе фактаў, пісьменнік паказаў сапраўдны твар гэтага махляра, сутнасць яго шалёных ідэй, унутраны свет чалавека, цалкам прадаўшага сябе акупантам. Машара расказвае, што сярод палітычных жулікаў, якія «жыравалі» ў фашысцкай Германіі, Станкевіч займаў, як вядома, не апошняе месца. Гэты прайдзісвет нейкім чынам, не маючы нават сярэдняй адукацыі, купіў у Чэхаславакіі доктарскі дыплом і стаў называць сябе «доктарам філалогіі». Там ён знюхаўся з нямецкімі фашыстамі і стаў іх наймітам. З Чэха-

славакіі немцы выправілі яго на «работу» ў Беларусь. І «доктар» працаваў, бо гаспадары давалі добрыя грошы. Яны нават даручылі яму стварыць сваю «собскую» партыю. Праз тыдзень гэты махляр зляпіў яе: напісаў праграму і статут, якія спадабаліся фашысцкім гаспадарам. Станкевіч пачаў выдаваць сябе за грамадскага дзеяча, выпусціў газету, а потым часопіс, дзе змяшчаў свае «навуковыя адкрыцці».

На многіх прыкладах пісьменнік паказвае, як верная служба акупантам выціснула з подлай душы Станкевіча ўсё чалавечае, атруціла яго свядомасць. І калі фашыстам спатрэбілася, каб ён з «доктара філалогіі» ператварыўся ў «доктара гістарычных навук», то ён з задавальненнем перакваліфікаваўся і са ўсёй сваёй «вучонай эрудыцыяй гісторыка» пачаў даказваць, што няма Беларусі і ніколі яе не было, а была і ёсць «Беларутэнія» і г. д.

Гэтыя навуковыя «манеўры» Я. Станкевіча на старонках «Беларускай газэты» нікога не здзіўлялі ў той час. Бо беларускі народ ведаў, што фашысцкі лісток з'яўляецца ярым ворагам Савецкай улады, а яго рэдактар У. Казлоўскі — памагаты гітлераўцаў. Адкуль магла пісаць праўду «Беларуская газэта» аб сацыялістычнай Беларусі, калі яе рэдактар з даўняга часу быў заядлым лгуном і паклёпнікам, спецыялістам па антысавецкіх правакацыях.

Міхась Машара працягваў выкрываць другога гітлераўскага служаку, таксама аўтара артыкулаў аб «арыйскай расавасці беларусаў» — Станіслава Станкевіча. У выступленнях пісьменніка па радыёстанцыі «Савецкая Беларусь» гучаў грамадзянскі гнеў, пратэст супраць крывавых спраў Станкевіча — начальніка Барысаўскага раёна, пры непасрэдным удзеле якога толькі ў лістападзе 1941 года было знішчана больш як 8 тысяч яўрэяў [1].

За нявыхад на работу, няўплату ў тэрмін падаткаў фашыстам, нязначную правіннасць С. Станкевіч загадваў учыняць крывавыя расправы перад натоўпамі прымусова сагнаных на плошчы людзей. Арганізаваўшы шпіёнскую агентуру, здраднік знішчаў камуністаў, актывістаў Савецкай улады і «палітычна ненадзейных». У адным з данясенняў нямецкаму камандаванню ён дамагаўся пасланць у кожны населены пункт моцныя гарнізоны аховы для барацьбы з партызанамі: «У апошні час у раёне Барысава, — дакладваў найміт, — з'явіліся партызанскія банды, якія прыносяць шкоду нямецкім узброеным сілам. Неабходна правесці акцыю, каб знішчыць партызан у гэтым раёне» [2]. У выніку гітлераўскія карнікі сумесна з паліцаямі знішчылі

[1] «Саўдзельнікі ў злачынствах». Мінск, 1964, стар. 94.

[2] Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф. 24, в. 3, а. з. 106. лл. 1, 2.

тысячы мірных жыхароў, спалілі дзесяткі вёсак.

Напісаўшы чарговы артыкул аб «арыйскай расавасці беларусаў» у «Беларускую газэту», С. Станкевіч з той жа заўзятасцю, тым жа пяром пісаў аб'явы і загады, якія наводзілі жах на мірнае насельніцтва. У адным з такіх загадаў ён пісаў, напрыклад: «Пачэсным абавязкам кожнага грамадзяніна з'яўляецца аказанне дапамогі ў барацьбе з партызанамі. За прадстаўленую мне праўдзівую інфармацыю, якая дасць магчымасць знайсці і затрымаць партызан, будзе выплачана высокая ўзнагарода і гарантавана тайна. Калі ж акажацца, што хто-небудзь ведае аб партызанах і не паведамляе аб гэтым, той будзе сурова пакараны» [1], гэта значыць, расстраляны ці павешаны. Не дзіўна, што С. Станкевіч хутка прасоўваўся па службовай лесвіцы. Вільгельм Кубэ спецыяльным загадам ад 14 ліпеня 1942 года назначыў яго даверанай асобай у фашысцкім штабе камісара Барысава. На справе гэта азначала, што гітлераўскаму паслугачу даваліся неабмежаваныя правы па адпраўцы беларусаў на катаргу ў Германію, арганізацыі паліцэйскіх атрадаў па знішчэнню партызан і мірнага насельніцтва. У абавязках «даверанага асоб», падпісаных Вільгельмам Кубэ, указвалася ў прыватнасці: «Давераная асоба ў штабе перш за ўсё

[1] Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф. 32, в. 1, а. з. 4, л. 41.

павінна ўдзельнічаць у прыцягненні мужчынскага беларускага насельніцтва ў шуцманскія карпусы, якія будуць удзельнічаць у барацьбе з партызанамі» [1].

Удумлівы позірк Міхася Машары пільна сачыў за каварнымі планамі нацыяналістаў: «Свяшчэнны агонь помсты, які гарыць у сэрцы кожнага сына роднай маці — Беларусі, спаліць і змяце з нашай роднай зямлі ўсіх фашысцкіх крыважэрных звяроў і іх брудных, ганебных паслугачоў-здраднікаў. Што можа быць агідней, як здраднік, чалавек, які з дзяцінства еў беларускі хлеб, піў беларускую ваду, дыхаў беларускім паветрам, а зараз ён здрадзіў свайму народу:

**Стаіць, як пёс, ля панскага парога,**
**Чакаючы костку з панскага стала,**
**Сагнуўшы нізка карак, ліжа ногі**
**Фашысцкім катам здраднік-рэнегат»** [2].

У выступленнях па радыёстанцыі «Савецкая Беларусь» пісьменнік выносіць смяротны прысуд правакатару і заклікае народных мсціўцаў здзейсніць яго як мага хутчэй.

Праз некалькі год, ужо пасля вайны, празаік Аляксей Карпюк у артыкуле «Пярэварацень» пісаў, што за прафашысцкія прамовы і артыкулы, а таксама за здзекі над яўрэйкамі з Мінскага гета, якіх ён гвалціў,

[1] ЦДАКР БССР, ф. 391, в. 1, а. з. 70, л. 1.
[2] ЦДАКР БССР, ф. 871, в. 1, а. з. 8, л. 19.

партызаны вынеслі «доктару» смяротны прыгавор, але ажыццявіць яго не паспелі. Кажуць, піша Аляксей Карпюк, цяпер «доктар» Станкевіч выступае па амерыканскаму радыё «Свабода» з Мюнхена. «Я зусім не здзіўляюся — надта лагічна. Толькі віншую амерыканцаў з такой «знаходкай».

Пакуль б'ецца сэрца ў грудзях беларуса, з гневам пісаў Ільо Гурскі ў артыкуле «Радзіма», ён не адцураецца сваёй сацыялістычнай Бацькаўшчыны, не забудзе сваёй мовы, не стане чорным вырадкам. Ільо Гурскі лічыў, што лепш смерць, чым жыць без Радзімы, без роду. «Птушка і тая мае сваё гняздо. Як жа можа жыць без Радзімы чалавек? І калі нямецкая брыда, голасна брэшучы, хоча адабраць ад нас Радзіму,.. называе арыйскай расай... мы скажам адно: смерць гітлераўскім памагатым!». Заклікаючы да няшчаднай расправы з адшчапенцамі, якія прадаюць свой народ, Ільо Гурскі выкарыстоўвае верш Максіма Багдановіча:

**Біце ў сэрцы іх, біце мячамі,**
**Не давайце чужынцамі быць!**
**Хай пачуюць, як сэрца начамі**
**Аб радзімай старонцы баліць** [1].

З заўзятасцю чалавека, страціўшага сумленне, стараўся на старонках літаратурнага

[1] «За свабодную Беларусь», 17 кастрычніка 1942 г.

дадатку да віцебскай газеты «Новый путь» Юрка Віцьбіч (ён жа Шчарбакоў, ён жа Стукаліч). Чаго толькі не плявузгаў гэты пярэварацень у нацыяналістычнай прэсе! Яго выказванні аб гісторыі беларусаў настолькі цынічныя і брахлівыя, што наўрад ці ёсць патрэба цытаваць іх. Важна другое: ніводзін беларус не лічыў «навуковы лямант» Віцьбіча за тое, чаго хацелася аўтару. А хацелася яму ні мала ні многа даказаць, што беларусы — гэта арыйцы, партызанская вайна беларускага народа — «братаўбіенная» і многае іншае, што было да спадобы фашыстам. Карацей кажучы, здраднік шчыра змагаўся за «двухтысячагадовую арыйскую культуру на Беларусі», за «новы парадак», які агнём і мечам спрабавалі ўстанавіць на часова акупіраванай тэрыторыі фашысты. Дарэчы, потым ён стаў наймітам амерыканскай разведкі і старанна, як некалі эсэсаўцам, лізаў боты новым гаспадарам. Да нядаўняга часу ў газеце «Беларус» Віцьбіч «шчыра змагаўся» за вольную «Бацькаўшчыну», расказваў пра «ідэальныя вехі залатога веку» ў гісторыі Беларусі, маючы на ўвазе век феадалізму. Ён, напрыклад, заявіў на старонках адной з эмігранцкіх газет, што збіраецца «пісаць гісторыю Беларусі не пяром і чарнілами, а штыком і кроўю» [1]. Вось куды сігануў Юрка! Што ж, як пісаў Кандрат Крапіва, «балабонь,

[1] Л. Абецадарскі. У святле неабвержных фактаў. Мінск, 1969, стар. 5.

да пары балабонь». У гады Вялікай Айчыннай вайны колькі разоў яму ледзь-ледзь удавалася ўратавацца ад партызанскай кулі. Юрка Віцьбіч баяўся паказвацца на вуліцах Віцебска, звяртаючыся да бога, ён прысвячаў вечары малітвам, але бог не дапамог фашысцкаму служаку. «Дрэнная справа гэтага фашысцкага брахуна,—пісаў Пятро Глебка ў газеце «За свабодную Беларусь».—Ён усё часцей і часцей пачынае апяліраваць да «ўсемагутнага бога». Марныя толькі стаpанні. Ад заслужанай кары ніхто не ўратуе здрадніка, нават яго нябесная заступніца—прападобная Яфрасіння, княжна Полацкая, на якую ён так моліцца і за спадніцу якой хоча схавацца» [1].

Кожны крок нацыяналістычных пісак не заставаўся не заўважаным беларускімі літаратарамі. Яны ці вершам, жартам, або нават трапнымі перыфразамі імкнуліся выкрыць здраднікаў, іх брахню. Для гэтага ў арсенале пісьменнікаў былі ўсе жанры публіцыстыкі. Так, амаль у кожным нумары газет «За свабодную Беларусь», «За Савецкую Беларусь», «Раздавім фашысцкую гадзіну» пад рубрыкай «Па карку недавярку» змяшчаліся з'едлівага характару жарты. Пісалі іх К. Крапіва, М. Лынькоў, М. Танк, А. Астрэйка, А. Бялевіч, П. Глебка, А. Куляшоў і многія іншыя. Як і фельетоны ці памфлеты, гэтыя жарты насілі таксама вострыя палітычны змест. У адным з такіх жартаў расказвалася,

[1] «За свабодную Беларусь», 6 чэрвеня 1942 г.

напрыклад: «Размах партызанскага руху на Беларусі не дае спакою гітлераўцам і іх памагатым ні ў дзень ні ў начы. Яны і не мараць ужо аб поўным знішчэнні партызан, яны заклапочаны тым, каб уратаваць сваю скуру. Для гэтага яны пайшлі на чарговую правакацыю. Пры дапамозе нацыяналістаў арганізавалі «Беларускую самапомач» быццам бы для дапамогі ахвярам вайны. А цяпер фашысты ад гэтай «самапомачы» патрабуюць сабе помачы. Кажуць, вы павінны абараняць нас ад партызан. «Мы вам, кажуць, пасля «адраджэнчаскага этапа» адкрыем «узвышэнскі» перыяд культуры, толькі абараніце нас ад партызан!» Партызаны ж на гэта даюць свой адказ: «Што ж, узвышэнне дык узвышэнне! Мы вас разам з вашымі здраднікамі на шыбеніцы так узвысім, што нагамі зямлі не дастанеце!» [1]

Нацыяналісты, аднак, любымі сродкамі стараліся выслужыцца перад сваімі хлебадаўцамі. Часопіс «Новы шлях» і «Беларуская газэта» побач з узмоцненай расісцкай прапагандай славілі Вільгельма Кубэ і яго «вызваленчую» місію. Закрываючы вочы на тое, што ён адпраўляў штодзённа сотні людзей на смерць, яны рабілі з яго «гуманіста», «дэмакрата» і нават... «таленавітага драматурга», які «не шкадуе сіл і занятасці для развіцця беларускай драматургіі». На ста-

[1] «За свабодную Беларусь», 28 чэрвеня 1942 г.

ронках іх друку змяшчаліся пераклады п'ес ярага нацыста, хвалебныя рэцэнзіі. Хэўра нацыяналістаў заварушылася яшчэ больш, калі Кубэ выпісаў у Мінск для пастаноўкі сваіх дубаватых п'ес артыстаў Ляндсбергскага гарадскога тэатра. Што ж гэта за «таленавіты драматург», ведае кожны беларус. «Па няпоўным дадзеным, у Беларусі за час яго праўлення расстраляна, павешана, спалена звыш аднаго мільёна чалавек. Калі дадаць да гэтага 800 тысяч вывезеных на катаржныя работы ў Германію, то атрымаем, што гітлераўскаму кату за паўтары гады ўдалося скараціць насельніцтва Беларусі больш, чым на адну трэць» [1].

Беларускія паэты і празаікі выступілі з рашучым пратэстам супраць самазванага драматурга, які палез на беларускую сцэну. У сваіх творах яны паказалі сапраўдны твар лютага забойцы і ката. 24 жніўня 1942 года ў газеце «За свабодную Беларусь» Ілья Гурскі пісаў, напрыклад, што беларускі народ ведае гаўляйтэра Кубэ, як атамана бандыцкай зграі, якая творыць бясчынствы і грабяжы ў нашых гарадах і сёлах. Але гэтай славы мала крываваму гаўляйтэру — яму не даюць спакою лаўры драматурга. Часам, падпісаўшы загад аб расстрэле мірных жыхароў, ён тым жа пяром піша свае бяздарныя п'есы. Высмейваючы п'есу Кубэ «Тоталем», Ілья Гур-

[1] ЦДАКР БССР, ф. 871, в. 1, а. з. 13, л. 2.

скі пісаў, што ў яе пастаноўцы прымуць акцыўны ўдзел нямецкія салдаты. «Што ж казаць, — усклікаў ён, — «акторы», вартыя «драматурга»! Няўдалых аўтараў звычайна асвістваюць. Мы ўпэўнены, што і «драматурга» Кубэ з яго п'есай беларусы кулямі асвішчуць».

Вільгельм Кубэ, вядома, не мог не аддзякаваць нацыяналістычным падлізам за расхвальванне яго графаманства, і гэта падзяка неўзабаве вылілася ў загад аб стварэнні беларускай акадэміі навук у Мінску. У час урачыстасцей з выпадку адкрыцця акадэміі нацыяналісты, у сваю чаргу, адзінагалосна выбралі Кубэ яе «ганаровым прэзідэнтам». Прафашысцкія выданні пачалі ўзахлёб распінацца, што цяпер «работа вучоных будзе планавай і ўзгодненай з нямецкім кіраўніцтвам», а гэта, маўляў, дасць «зайздросныя навуковыя адкрыцці».

Паглядзім, што ж гэта за такія адкрыцці?

Нейкі «вучоны-эканаміст», «спецыяліст» па развіццю прамысловасці ў акупіраванай гітлераўцамі Беларусі, даказваў, што з прыходам германцаў чакаецца бурнае развіццё прамысловасці ў краі, будаўніцтва заводаў-гігантаў, фабрык і г. д. «Вучоны» з фашысцкай акадэміі даводзіў, што «плануецца ў драўлянай прамысловасці пусціць у рух 17 прадпрыемстваў... Прадбачыцца ў шырокім памеры выраб драўлянага абутку для мясцовага насельніцтва».

Змяшчалася нямала «даследаванняў» аб грамадскім развіцці Беларусі, дзе здраднікі заўзята «змагаліся» за тое, каб «Бацькаўшчына пад кіраўніцтвам Адольфа Гітлера была моцным штурмавым батальёнам Новай Еўропы». Цынічна распісвалася «высокая мараль» гітлераўскіх заваёўнікаў: «Нямецкі жаўнер з'яўляецца ў нас не толькі абаронцам мірнага жыцця і парадку, але і служыць добрым прыкладам шчырасці, сумленнасці, ахвярнасці, ветлівасці...» Так, пісаў К. Чорны ў памфлеце «Далікацтва каля вісельні», забойцы могуць гаварыць і прыкідвацца часам, што ў іх найцудоўнейшая любоў і павага да савецкага народа, як, напрыклад, рэдактар Віцебскай газеты «Новый путь» Брант [1], які хваліў чуць не ў кожным нумары гэтага бруднага лістка культуру, далікатнасць нямецкіх салдат. Кожны салдат германскай арміі, брахаў рэдактар, лічыць сваім абавязкам, увайшоўшы ў дом, прывітацца — будзем жа браць з іх прыклад. К. Чорны расказвае далей у памфлеце, што ў тым жа Віцебску нямецкія афіцэры згвалцілі дзвюх сясцёр, а затым загадалі салдатам павесіць іх перад акном роднага дома. Як толькі сёстры былі павешаны, адзін з фашыстаў далікатна ўзяў пад казырок і сказаў іх маці:

---

[1] Былы дырэктар музычнага тэхнікума, немец па нацыянальнасці, Брант прадаўся германскім фашыстам і выдаваў газету «Новый путь». Быў забіты народнымі мсціўцамі 24 мая 1942 года.

— Жыві, матка, у гэтым доме і глядзі праз акно на сваіх дачок. Яны маладыя, і за імі трэба наглядаць...

Вось дзе, падкрэслівае К. Чорны, праявілася «далікатнасць», «культура» заваёўнікаў: каля вісельні.

Здзіўляюць сваім цынізмам і «філасофскія адкрыцці» фашысцкай акадэміі. Выступаючы супраць гістарычнага матэрыялізму, нацыяналісты прапаведвалі вучэнне Ніцшэ аб неабходнасці войн, страшэнных разбурэнняў і лічылі, што паралізаваць і «вытравіць з свядомасці беларускага народа» такія паняцці, як сацыялізм, камунізм, зможа моцная і рашучая ўлада, якая не павінна спыняцца нават перад прымяненнем прымусу, знішчэннем непакорных, устанаўленнем тэрору і стварэннем «канцлагераў перавыхавання». Так, напрыклад, у адным з артыкулаў паведамлялася, што «матэрыялізму з усімі з'явамі, якія яго суправаджаюць, трэба супрацьпаставіць высокія паняцці дабрачыннасці і ідэалізму. Гэтак павінны быць развіты рысы душы і характару, каб беларускі народ, які мае чыста арыйскае паходжанне, можна было б з годнасцю прыняць у сферу еўрапейскае культуры, а насамаперш у абсягі культуры заходнееўрапейскай... Нямеччына пакідае за сабой правадыра ў Новай Еўропе і мае поўнае права адыгрываць галоўную ролю ў новаўпарадкаванні Еўропы пасля заканчэння вайны: гэтае права яна акупіла цаной крыві

сваіх жаўнераў і цаной поту сваіх сялянаў і работнікаў, якія працавалі на патрэбу фронту... Нямецкі дух з'яўляецца геніем творчасці, працы і парадку, а не дэманам разбурэння, прыгнёту і здзеку» [1]. Далей гаварылася, што «нікому лепш, як Нямеччыне і ейнаму правадыру Адольфу Гітлеру, нельга даверыць лёс нашага кантыненту» [2]. Так «шчыра і самааддана» змагаліся здраднікі за «вольную Бацькаўшчыну». «Але дарэмна, — з агідай да шалёных намераў фашысцкіх наймітаў пісаў Якуб Колас, — ішакі з прарэзлівымі галасамі тужыліся засланіць сонца сваім доўгім вухам. Ніколі не пераможа сіла цемры, зла і разбурэння. Не ўсталюе над светам яна свае ўлады. Усё, што прыходзіць са змроку, у змрок і сойдзе» [3]. Аптымізм народнага песняра спраўдзіўся.

«Вучоныя мужы» гаўляйтэрскай акадэміі вялі атаку і супроць беларускай літаратуры. «Філолагі» А. Адамовіч, Ф. Аляхновіч, В. Іваноўскі, С. Станкевіч і іншыя патрабавалі перш-наперш ад старшыні фашысцкай «Беларускай народнай самапомачы» Ермачэнкі [4] прыняць неадкладныя меры для «за-

---

[1] «Жыве Беларусь» № 1, 1944.
[2] Там жа.
[3] «Савецкая Беларусь», 24 красавіка 1943 г.
[4] Яры вораг беларускага народа, белагвардзеец. Служыў у арміі Дзянікіна, быў генеральным консулам так званага ўрада «Беларускай Рэспублікі» ў Турцыі. У 1939 годзе кіраваў пражскім філіялам «Беларускага камітэта ўзаемадапамогі», дзе вербаваў белаэмі-

бароны ў масавым карыстанні» твораў Я. Коласа, К. Чорнага, К. Крапівы, М. Лынькова, Зм. Бядулі, І. Гурскага і іншых, матывіруючы тым, што яны выступаюць у савецкім друку з «варожымі артыкуламі», «баламуцяць круцельнай прапагандай беларускі нацыянальны рух».

У артыкуле «Шляхі развіцця беларускай літаратуры» памагаты акупантаў А. Освіч, які змяшчаў артыкулы аб гісторыі развіцця беларускай літаратуры і журналістыкі ў «Менскай газэце» і «Мінскер цайтунг», абразліва і хлусліва даводзіў пра нейкія неіснуючыя ў сапраўднасці тэорыі і ідэі ў творчасці нашых вядучых паэтаў і празаікаў, чым спрабаваў падарваць іх аўтарытэт у народзе. Нямецкаму прыхвасню не падабалася, што пісьменнікі «злоўжываюць прапагандай усеагульнай партызаншчыны ў крывіцкім краі» і што «насельніцтва, чамусьці, верыць іх агітацыі». Освіч адкрыта заклікаў да расправы над імі пасля перамогі Германіі і арганізацыі «пад апекай Гітлера новай беларускай літаратуры і друку» [1].

Сумесна з У. Казлоўскім «філолагі» выпусцілі ў акупіраваным Мінску газету, якой далі папулярную сярод партызан і мірнага

---

грантаў у нямецкія шпіёнскія і дыверсійныя школы. У час акупацыі Беларусі ўзначальваў «Беларускую народную самапомач», якая вербавала людзей у армію «Беларускай краёвай абароны».

[1] «Мінскер цайтунг», 15, 22, 29 красавіка 1943 г.

насельніцтва назву — «Савецкая Беларусь». Як і сапраўдная газета «Савецкая Беларусь», фальшыўка нацыяналістаў была скінута ў партызанскіх зонах з самалётаў.

Але здраднікі пралічыліся. Даведаўшыся пра падлог, Міхась Лынькоў напісаў памфлет «На злодзею шапка гарыць...», у якім выкрыў «халуйскую службу на гітлераўскім сметніку» фашысцкіх хаўруснікаў. Чаму ж моські, пытаецца аўтар, палезлі пад чужую шапку? Чаму ўкралі яны чужую назву газеты? Як вядома, на злодзею любая шапка гарыць, ніякім загалоўкам тут не замаскіруешся. «А справа аказваецца вельмі простай, — зазначае М. Лынькоў. — Не хоча народ чытаць нямецкіх газет, бо абрыдла. Яны апрыклі сваім вечным скуголеннем, моськавым брэхам. Народ не чытае і не бярэ ўсіх гэтых аднамысных «Новых путей», «Новых шляхоў», «Новых парадкаў» [1].

Хітрыкі, шытыя белымі ніткамі, выкрылі многія падпольныя і партызанскія выданні. Так, напрыклад, газета «Народны мсцівец» у артыкуле «Дабрахаліся» пісала: «Цяжка жывецца сабакам-пісакам з гебельсаўскай сабакарні. Яны аж са скуры лезуць, бедныя, а брэшуць, віляюць хвастом, выскальваюць зубы. Брэшуць на ўсякі лад, на розныя нора-вы, але ніхто не звяртае ўвагі на іх сабачую брахню. Фашысцкія брахуны выкінулі новы

[1] «Раздавім фашысцкую гадзіну» № 18, 1943.

жульніцкі трук. Набіўшы руку на розных фальшыўках і падлогах, гітлераўскія пісакі выпусцілі газету «Савецкая Беларусь» за 14 ліпеня гг. (маецца на ўвазе 1943 год— І. С.), № 69, орган ЦК КП(б)Б, Саўнаркома і Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, старонкі якой напоўнены фашысцкай хлуснёй. Фальшываманетчыкі імкнуліся ўвесці ў зман беларускі народ. Але зноў нічога не выйшла. Знаёмая брахня фашысцкіх сабак была хутка разгадана» [1].

Праўдзівага слова беларускіх пісьменнікаў гітлераўскія памагатыя баяліся, як агню. Таму не дзіўна, што так званы «прэзідэнт» Беларускай цэнтральнай Рады Р. Астроўскі ў час прамовы ў пасёлку Альберцін [2] перад членамі фашысцкага «Саюза беларускай моладзі», якая была надрукавана ў «Беларускай газэце» (чэрвень 1943 г.), пагражаў суровым пакараннем Я. Коласу, К. Чорнаму, К. Крапіве, М. Лынькову, І. Гурскаму і іншым паэтам і празаікам: «Я ўжо казаў раней, што асабіста буду прысутнічаць пры пакаранні пісьменнікаў, якія няславяць нас...»

Іншы раз «даследчыкі» гера Кубэ дзейнічалі замаскіравана, прыкідваліся, быццам «завельмі любяць народ, ягоную гісторыю, яго лепшых прадстаўнікоў культуры, навукі,

---

[1] «Народны мсцівец» № 18, 1943.

[2] У пасёлку Альберцін (непадалёку ад Слоніма) знаходзіўся ў гады вайны вучэбны лагер «Саюза беларускай моладзі».

літаратуры». З гэтай мэтай Адамовіч, Аляхновіч, Арсеньева, Станкевіч са згоды Кубэ і пры непасрэдным удзеле акупацыйных улад вырашылі арганізаваць «навуковую канферэнцыю», прысвечаную святкаванню юбілею Максіма Багдановіча ў Мінску.

Фашысцкія найміты пісалі пазней аб гэтым святкаванні ў часопісу «Новы шлях», што «побач з нямецкімі сцягамі горда павявалі нашы бел-чырвона-белыя штандары», што на ўрачыстасцях «вялікага нацыяналіста Максіма Багдановіча прысутнічалі паважаныя госці» ад нямецкага кіраўніцтва і г. д.[1].

Гітлераўскія цемрашалы, якія знішчалі творы Гётэ, Гейне, Фрэйліграта, Томаса Мана, Фейхтвангера, замучылі ў турме лаўрэата Нобелеўскай прэміі Карла Асецкага і давялі да самагубства Стэфана Цвейга, апошлілі магілы Льва Талстога і Тараса Шаўчэнкі, якія загадалі канфіскаваць і спаліць творы Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы, Змітрака Бядулі, Міхася Лынькова, Ільі Гурскага і іншых беларускіх паэтаў і празаікаў, вырашылі арганізаваць фарс са святкаваннем юбілею паэта-гуманіста Максіма Багдановіча. Вядома, што ні на аднаго пісьменніка немцы і іх хаўруснікі не маглі абаперціся ў сваёй бруднай дзейнасці. Савецкія паэты і празаікі, як адзін, змагаліся з фашызмам. Многія ваявалі на фронце са збро-

[1] «Новы шлях» №№ 1—5, 1943.

яй у руках. Як падкрэсліў у прамове па радыё Міхась Лынькоў, «вайна правяла суровую праверку радоў нашай арганізацыі пісьменнікаў. Гэтая праверка вытрымана з чэсцю. Беларускія пісьменнікі, як і ўся беларуская інтэлігенцыя, ёсць і застануцца плоццю ад плоці савецкага народа, людзьмі, адданымі вялікай справе партыі. У дні самых цяжкіх выпрабаванняў жывуць яны непарушнай верай у сілы і магутнасць вялікага савецкага народа, у яго канчатковую перамогу» [1]. Будучы ўпэўненымі, аднак, што мёртвым не баліць і мёртвыя не пратэстуюць, нацыяналісты і вырашылі «адсвяткаваць», гэта значыць апаганіць юбілей славутага класіка нацыянальнай літаратуры. Супраць гэтага пратэставалі ўсе паэты і празаікі.

Кандрат Крапіва 3 лютага 1942 года выступіў па радыёстанцыі «Савецкая Беларусь» з прамовай пад назвай «Прэч крывавыя лапы ад Максіма Багдановіча!» У кожным радку гэтага палымянага выступлення пратэст супраць нацыяналістаў, якім ніхто не даў права прыпісваць Максіму Багдановічу і яго эстэтычным поглядам тое, чаго ніколі не было.

Крапіва супастаўляе патрыятычныя ідэі і матывы творчасці вялікага паэта з бязглуздымі, крывадушнымі «тэндэнцыямі і выдумкамі» нацыяналістычных брахуноў. Ён паказвае

---

[1] ЦДАКР БССР, ф. 871, в. 1, а. з. 9, л. 12.

воблік паэта-змагара, які так прыгожа апяваў беларускі край у сваёй крыштальна чыстай паэзіі, прыгажосць беларускіх лясоў, азёр і крыніц, якія былі замутнёны крывёю нявінных людзей, захапляўся хараством спелага жыта пад летнім ветрам і васілька ў спелым жыце і сінімі, як васількі, вачамі беларускіх жанчын. «Цяпер наша жыта разам з васількамі,—гнеўна гаварыў Кандрат Крапіва,— вытаптана дзікімі фашысцкімі табунамі, і сінія вочы беларускіх жанчын пабляклі ад гора і слёз» [1].

Крапіва паказаў хаўтурнае крывадушша, брудны фарс «святкавання» юбілею Багдановіча нацыяналістамі, бо ў кожным іх слове аб гэтым «святкаванні»—несусветная брахня. Гітлераўцы і іх найміты рабавалі беларускае мастацтва. Так, у адным з загадаў генерала СС Готберга ад 1 жніўня 1943 года патрабавалася вывозіць з занятых раёнаў усе культурныя каштоўнасці, вопратку, прылады працы, унікальныя дамашнія рэчы і г. д. «У эвакуіраваных раёнах у будучым,—указвалася ў гэтым загадзе,—усе людзі будуць лічыцца свабоднай дзіччу» [2], якую можна страляць без папярэджвання.

Такі ж лёс чакаў і слуцкія паясы, пра якія пісаў Багдановіч. Яны былі ўкрадзены фашыстамі з Мінскай карціннай галерэі і вы-

---

[1] ЦДАКР БССР, ф. 871, в. 1, а. з. 8, л. 106.
[2] ЦДАКР БССР, ф. 2123, в. 1, а. з. 5, л. 46.



**Сяброўская гутарка гітлераўскага генерала з Радаславам Астроўскім.**



**Групэнфюрэр СС фон Готберг і Міхаіл Ганько абменьваюцца поціскам рук.**



**Злева направа: Ф. Кушаль, М. Шкялёнак і С. Станкевіч.**



**У Берлінскім аэрапорце фашысты сустракаюць Івана Ермачэнку.**

# ПРЫВІТАЛЬНЫ ЛІСТ
## Сп. ГЭНЭРАЛЬНАГА КАМІСАРА

Менск, 14 жніўня 1943

Найлепшымі пажаданьнямі вітаю першы нумар новага часапісу моладзі «Жыве Беларусь».

Гэты часапіс павінен выходзіць, як орган кіраўнікоў Саюзу Беларускае Моладзі. Ён павінен даваць кіраўніком і кіраўнічкам беларускае моладзі, якія на груньце Новай Эўропы змагаюцца супроць бальшавізму, нагоду да абмену думкамі. Часапіс павінен у добра прадуманых артыкулах выражаць супольны скарб ідэяў кадраў кіраўнікоў і быць для беларускае моладзі зброяй у змаганьні супроць бальшавізму і жыдоўства.

У ім павінен выражацца здаровы дух моладзі Новай Эўропы і культывавацца сувязь і вернасьць да нямецкага народу і да Правадыра Адольфа Гітлера. Разам з гэтым, зьместам новага часапісу павінна быць любасьць да беларускае Бацькаўшчыны і Беларускага народу.

Хай-жа ён дапамагае у службе беларускай моладзі і няхай ягонае змаганьне за Новую Эўропу прывядзе да перамогі на беларускім груньце.

Шлю свае найлепшыя пажаданьні беларускай моладзі і сёнай працы. Хай-жа станецца сымбалем тое выззнаньне, якое часапіс бярэ за сваё імя:

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Гэнэральны Камісар у Менску
Вільгэльм КУБЭ

З часопіса «Жыве Беларусь» № 1, 1943 г.




**Красамоўная вокладка часопіса «Беларус на варце» № 8, 1944 г.**



Здымак В. Кубэ з часопіса «Жыве Беларусь» № 2—3, 1943.

# ЗАГАД № 13

## *Шэфа Кіраўнічага Штабу СБМ*

Гор. Менск

22 верасьня 1943 г.

21 верасьня 1943 .г., правёўшы апошні вечар свайго жыцьця сярод вышэйшых кіраўнікоў і кіраўнічак Саюзу Беларускае Моладзі, загінуў трагічна ад бальшавіцкае рукі найлепшы прыяцель Беларускага народу, засновальнік і апякун Саюзу Беларускае Моладзі, Гэнэральны Камісар Беларусі, гаўляйтар Вільгэльм Кубэ.

Ягоная праца, якой ён заклаў падваліны пад нацыянальную адбудову Беларусі, і ягонае імя будзе трывала запісанае на балонах нашае гісторыі.

Дзеля ушанаваньня ягонае так дарагое для нас памяці абвяшчаю сямёхдзённую жалобу у Саюзе Беларускае Моладзі і загадваю ува усіх адзінках правесьці 25.9.1943 жалобны вечар, на якім расказаць аб ягонай ролі у беларускім адраджэньні і адбудове.

Штогоду у дзень забавязаньня моладзі, 22-га чырвеня, імя гаўляйтара Вільгэльма Кубэ будзе успамінацца у шэрагу іменьняў змагароў за шчасьце і будучыню Беларусі.

М. ГАНЬКО
шэф-праваднік

**Загад М. Ганько з часопіса «Жыве Беларусь» № 2—3, 1943.**

везены ў музеі Берліна, Кенігсберга, Гамбурга і іншых гарадоў.

Абвяргаючы фальш гітлераўскіх памагатых аб творчай манеры і эстэтычным вобліку Максіма Багдановіча, Кандрат Крапіва з нянавісцю гаварыў па радыё: «І вось імя такога паэта, паэта-гуманіста і гарачага патрыёта сваёй Радзімы, фашысцкія ідыёты задумалі скарыстаць для сваёй подлай мэты. Яны не ведаюць таго, што адно датыканне іх крывавых лап да чыстай паэзіі Максіма Багдановіча з'яўляецца абразай для беларускага народа і выклікае ў яго сэрцы гарачую нянавісць да подлых фашысцкіх вырадкаў. Беларускі народ зробіць усё магчымае, каб рукі гітлераўскіх бандытаў, на якіх запяклася кроў беларускіх жанчын і дзяцей, не заплямілі светлы вобраз паэта» [1].

Супраць спекуляцыі на светлых імёнах выдатных дзеячаў беларускай культуры выступіў крытык, акадэмік Васіль Барысенка. Ён паказаў агідны сэнс і правакацыйную сутнасць «прыхільнасці» нацыяналістаў да творчасці Багдановіча.

Барысенка пісаў, што Максім Багдановіч выхаваўся на рэвалюцыйных традыцыях Пушкіна, Лермантава, Шылера, Гейне, на творчасці тых сусветна-вядомых пісьменнікаў, якія так ненавісны фашыстам, творы якіх з такой лютасцю знішчаюць і паляць гіт-

[1] ЦДАКР БССР, ф. 871, в. 1, а. з. 8, л. 107.

лераўскія варвары. Багдановіч жыў і ствараў свае цудоўныя вершы і пісаў публіцыстычныя артыкулы ў змрочныя часы царызму. Творчасць яго прасякнута пякучым пратэстам супраць сацыяльнага і нацыянальнага рабства, у якім у тыя цяжкія часы знаходзіўся яго народ. Магутнае дыханне глыбока чалавечнай лірыкі накіравана супраць прыгнёту і гвалту, цемры і варварства, носьбітамі якіх у самай агалцелай форме з'яўляюцца фашызм і яго наймiты. I вось нацыяналісты задумалі прысвоіць Багдановіча.

У супрацьлегласць фашысцкім пісакам і прамоўцам, якія ўзвялі Максіма Багдановіча ў ранг «вялікага нацыяналіста», Васіль Барысенка паказвае воблік паэта, усім сэрцам ненавідзеўшага свет эксплуатацыі, свет прымусу, прыгнёту, нажывы. Такія творы паэта, як «Народ, беларускі народ», «З песняй беларускага мужыка», «Над магілай мужык», «Санет» і многія іншыя, напоўненыя гневам, адмаўленнем самаўладства, набывалі асаблівае значэнне ў барацьбе з акупантамі. Пратэстуючыя радкі твораў з сацыяльнымі матывамі гучалі гарачым заклікам да помсты, да бязлітаснай барацьбы з акупантамі і наймітамі Гітлера. Багдановіч, пратэстуючы супраць ворагаў, зазначае Барысенка, ніколі не быў вузкім нацыяналістам. Яго творчасці арганічна варожымі былі чалавеканенавісніцкія тэорыі нацыянальнай выключнасці і перавагі адной нацыі над другой, чым харак-

тарызуецца «ідэалогія» і практыка гітлераўскіх людаедаў.

Немалое месца ў «даследчыкаў» гера Кубэ належала пытанням выхавання дзяцей. Таму яны сумесна з акупантамі старанна распрацоўвалі падручнік і «праекты да падручнікаў» для «адукацыі» беларускай моладзі.

Часопіс «Народная школа» вітаў загад Розенберга ад 25 чэрвеня 1942 года аб тым, што ў так званых «народных школах» Беларусі з пачатку новага навучальнага года ўводзіцца лацінскі алфавіт. «Такі пераход — сучасны і абаснаваны, — падкрэсліваў часопіс, — таму што лацінскім алфавітам карыстаецца ўся Еўропа, і Беларусь, якая канчаткова далучаецца да еўрапейскай культуры, павінна прыняць і гэты спосаб выражэння культуры» [1]. Распрацоўваемая «адукацыя» была накіравана на знішчэнне савецкай школы і замену яе прафашысцкай, дзе больш паловы часу адводзілася вывучэнню нямецкай мовы. Апраўдваючы гэты акт, нацыяналісты пісалі: «Хто ведае чужую мову, той можа чытаць чужыя кніжкі і часопісы, можа даведацца з іх шмат карыснага,.. добра працаваць і старанна слухацца ва ўсім нашых гаспадароў».

Чорная задума скасаваць савецкую школу была і ў «вытлумачэннях да праграм» па асобных дысцыплінах школьнага навучання.

---

[1] «Беларуская школа» № 5, 1942.

Так, напрыклад, у «вытлумачэнні да праграмы па грамадазнаўству», якое было надрукавана ў «Беларускай газэце», часопісах «Новы шлях» і «Народная школа», а таксама выдадзена асобнай лістоўкай, указвалася, што будучы арыйскай расай, беларускія дзеці павінны з малых год «старанна вывучаць прыгожую нямецкую мову», «гісторыю нацыянал-сацыялізму». «Грамадазнаўства, — пісалася ў лістоўцы, — павінна быць завяршэннем усяго нашага ўзгадавання — гэта прадмет, які канцэнтруе ў сабе ўсе найпатрэбнейшыя веды практычнага жыцця,.. перамогу... нацыянальнага сацыялізму і адсюль выплываючае паняцце новай Еўропы і новага парадку Гітлера» [1].

Валтузня з «народнымі школамі» ў сапраўднасці азначала не што іншае, як ліквідацыю адукацыі ў Беларусі, бо гітлераўцы ставілі мэту ператварыць паднявольнае насельніцтва ў сваіх рабоў. «Для нямецкага насельніцтва на Усходзе не павінна быць ніякіх школ, акрамя чатырохкласнай пачатковай школы, — паведамлялася ў спецыяльнай памятцы рэйхсканцылярыі. — Пачатковая школа павінна ставіць сваёй задачай адукацыю вучняў толькі ліку максімум да 500 і ўменню распісацца, а таксама распаўсюджванню вучэння пра тое, што падначаленне

[1] «Паясненне да праграмы грамадазнаўства» (праект). Выдадзена лістоўкай. Мінск, 1942.

немцам, сумленнасць, прыкладнасць і падпарадкаванне з'яўляюцца божай запаведдзю». Борман у пісьме рэйхсміністру ўсходніх акупіраваных абласцей Розенбергу ад 23 чэрвеня 1942 года папярэджваў: «Ні ў якім выпадку нельга даваць мясцоваму насельніцтву больш высокую адукацыю, калі мы зробім гэта, мы самі выклічам у будучым супраціўленне супраць нас» [1]. Выконваючы гэтыя «інструкцыі і памяткі», фашысты разбурылі ў рэспубліцы 6 177 школ і 2 648 моцна пашкодзілі. А для непасрэднага анямечвання ў самой Германіі было вывезена 24 180 беларускіх дзяцей.

«Не пускайце сваіх дзяцей у фашысцкія «народныя школы», — палымяна заклікаў Міхась Лынькоў. — Забівайце «вучоных жулікаў» гера Кубэ, якія хочуць анямечыць наша пакаленне!» Гэтым трывожным заклікам прасякнуты такія артыкулы пісьменніка, як «Моладзь — на барацьбу за Радзіму!» «Біце, знішчайце бандытаў!», «Точаць сякеры беларусы» і многія іншыя. Міхась Лынькоў падкрэслівае, што шлях да шчасця і свабоды ніколі не быў здабыты без ахвяр, без страт, таму трэба маральная адказнасць кожнага сына Радзімы за яе будучыню.

У выдатным артыкуле «Слава вольнаму Гомелю!» Лынькоў голасам, перапоўненым

---

[1] «СС в действии. Документы о преступлении СС». М., 1968, стр. 506.

гневам і помстай, пытаў: «Хіба можа жыць на свеце зверападобная істота, пасягнуўшая на ясныя вочы дзіцяці? Хіба можа жыць на сучаснай зямлі істота, успрыняўшая вобраз канібала? Хіба могуць жыць гэтыя гадзючыя стварэнні з розумам шалёнага сабакі і з сэрцам блудлівай гіены?» [1]. Умела расстаўляючы ў артыкуле дзеючых асоб, аўтар выразна выводзіць партрэт ката Герынга, асноўная прафесія якога сярод фашысцкай вярхушкі, як заяўляў ён сам, знішчаць мільёны людзей. «Я ўсю ноч сядзеў за пісьмовым сталом і падпісваў смяротныя прыгаворы. Пераканайцеся самі, наколькі я свежы і бадзёры», — заявіў групе фотакарэспандэнтаў Герынг. Міхась Лынькоў падкрэслівае, што нацыяналістычныя здраднікі дапамагалі акупантам знішчаць беларусаў.

У памфлеце «Па карку недавярку» Ілья Гурскі гаварыў, што нацыяналістычным малпам, стомленым забойствамі дзяцей і жанчын, захацелася ў «навуковым парадку» падагуліць вопыт свайго людабойства. Пісьменнік абрушвае палымяны гнеў на «акадэмію» гера Кубэ, якая так заўзята творыць «падручнікі», і паказвае, хто з'яўляецца так званымі «вучонымі мужамі» ў новаяўленай фашысцкай акадэміі. Перш за ўсё, у «акадэмікі» запісаўся сам Кубэ, ён назваў сябе ганаровым прэзідэнтам. За прэзідэнта Кубэ прызначыў

---

[1] «Известия», 26 лістапада 1943 г.

нейкага «доктара Ермачэнку... А дзе ж вучоныя?—пытаецца пісьменнік.—А за вучонага Кубэ прызнаў усё таго ж вядомага нашаму чытачу прайдзісвета Адамовіча, якога фашысты паспешна перарабілі ў акадэміка. Ён у фашыстаў, як кажуць, і швец і жнец і на дудзе ігрэц» [1].

Гурскі высмейвае фарс з арганізацыяй акадэміі таксама ў фельетоне «Дурань дурня пазнаў і ў акадэмію пазваў». У ёй аўтар паказвае ўбоства «вучоных мужоў», цалкам прадаўшых сябе і паставіўшых «собскія навуковыя адкрыцці» на службу каварнаму фашызму. Асабліва дастаецца «акадэміку» Адамовічу: «Нездарма ж фон Кубэ прызначае Адамовіча і за акадэміка, і за рэдактара, і за рэферэнта, бо гэты асёл сваімі капытамі ахвотна топча ўсе каштоўнасці культуры чалавечага генія. Каб падвесці «навуковы грунт» пад людаедскую практыку вешальніка беларускага народа, фон Кубэ і стварыў «акадэмію навук». Дурань дурня пазнаў і ў акадэмію пазваў. Але гаўляйтэр Кубэ сам са сваімі халуямі, здраднікамі беларускага народа, захлынецца ў сваёй уласнай паганай чорнай крыві. І ў гэтым яму дапамогуць партызаны» [2].

Як палымяны пратэст, як суровае папярэджанне здраднікам гучыць памфлет Кузьмы

---

[1] «За свабодную Беларусь», 12 жніўня 1942 г.
[2] «За свабодную Беларусь», 18 жніўня 1942 г.

Чорнага «Акадэмічны фрыц». Абагульняючы шматлікія факты крывавых зладзействаў памагатых Гітлера, аўтар зазначае, што акупанты збіраюць у так званую «акадэмію» шпіёнаў, злачынная дзейнасць якіх даходзіць да «акадэмічнага ўзроўню». Сярод іх такія даўнія служакі нацыстаў, як правакатары В. Гадлеўскі, С. Станкевіч, І. Ермачэнка. «Кожны з іх, — зазначае Кузьма Чорны, — з акадэмічнай спрытнасцю шчыра і аддана працуе на тое, каб на беларускай зямлі сядзелі нямецкія паны і каб нямецкая віселеня працавала з акадэмічным размахам» [1].

Са знішчальным сарказмам высмейвае Кузьма Чорны ў памфлеце «Гаўляйтэрская «акадэмія» Кубэ і яго прыхваснеяў — «акадэмікаў» Адамовіча, Гадлеўскага, Ермачэнку і іншых «вучоных-здраднікаў». Пісьменнік удала параўноўвае дзейнасць фашысцкай «акадэміі» з вядомай у народзе Смаргонскай акадэміяй, у якой некалі вучылі не людзей, а «касматых драпежнікаў-мядзведзяў». Прайшоўшы курс дрэсіроўкі, «касматыя акадэмікі» пасля прадаваліся брадзячым балаганшчыкам. Пісьменнік зазначае, што як толькі балаганшчык пачынаў біць у бубен, «касматыя акадэмікі» кідаліся ў скокі. У гэтым творы Кубэ ўдала ўвасабляецца ў вобразе балаганшчыка, а ў касматых мядзведзях — «навуковыя супрацоўнікі» гаўляйтэрскай акадэміі.

---

[1] «Раздавім фашысцкую гадзіну» № 597, 1942.

Кожная чарговая правакацыя нацыяналістаў — гэта здзекі, прымус і смерць соцен тысяч людзей. Каб прадоўжыць сваё нікчэмнае існаванне, выслужыцца перад гаспадарамі, яны расхвальвалі кожны крывавы крок гітлераўцаў, накіраваны на паняволенне беларускага народа. Як вядома, у канцы сакавіка 1942 года фашысцкія газеты і радыё пачалі гарлапаніць на ўвесь свет аб «новай зямельнай рэформе на заваяваных тэрыторыях». Яна ўхвалялася гітлераўскай прапагандай на самых розных мовах Еўропы, ёй фашысты прыдавалі велізарнае значэнне, як самай «дэмакратычнай», даказвалі, што гэта «рэформа» адным ударам змяце партызанскі рух і схіліць сялян на іх бок, нават выкліча разлад у Чырвонай Арміі. Газета «Дойчэ цайтунг ін Остланд» пісала, напрыклад: «Беларусіны ў асноўнай сваёй масе складаюцца з сельскагаспадарчых рабочых і дробных сялян. Раней за ўсё яны будуць зацікаўлены ў атрыманні зямельнага надзелу ў выглядзе спадчыннай арэнды»[1]. Радыёстанцыя «Вісла» ў сваіх перадачах развівала гэту тэорыю далей. Беларусіны, маўляў, даўно сумуюць па зямлі, і гэты сум прымушае іх іншы раз ехаць у Германію. Указвалася, што «Беларутэнія ўжо зараз можа паслаць у Германію тысячы маладых людзей ва ўзросце ад 18 да 25 год у якасці сельскагаспадарчых рабочых. «Герма-

[1] «Савецкая Беларусь», 27 сакавіка 1942 г.

ніі цікава, — цынічна прызнаваліся фашысцкія пісакі, — атрымаць у расавых адносінах здатнага, прывычнага да цяжкай працы рабочага»[1].

Тысячы савецкіх людзей прымусова вывозіліся ў Германію, ператвараліся ў рабоў. Цяжкая катаржная праца з ранку да вечара суправаджалася знявагай чалавечай годнасці. Тысячы гінулі ад голаду. «Жывуць іншыя народы ў дастатку ці яны падыхаюць ад голаду, — заяўляў кіраўнік СС і СД Гімлер, — цікавіць мяне толькі ў той ступені, у якой яны патрэбны, як рабы для нашай культуры»[2].

І словы фашыстаў не разыходзіліся са справай.

Уладальнік адной з ферм у лісце свайму сыну на Усходні фронт пісаў, што яму ўдалося набыць амаль дарма рабоў: «Я выбраў 6 рускіх з Мінскай акругі. Яны больш вынослівыя, чым французы. Адзін з іх памёр, астатнія працягваюць працаваць на полі і на ферме. Утрыманне іх нічога не каштуе. Учора я падверг экзекуцыі двух рускіх бестый, якія тайком паелі знятае малако, прызначанае для свінаматак»[3].

Цудам траплялі ў Беларусь і лісты нявольнікаў з нямецкай катаргі, змест якіх не можа не ўскалыхнуць чалавечае сумленне,

---

[1] «Савецкая Беларусь», 27 сакавіка 1942 г.

[2] «Нюрнбергский процесс». Сб. материалов, т. 1, М., 1954, стр. 530.

[3] ЦДАКР БССР, ф. 871, в. 1, а. з. 6, л. 56.

не выклікаць гневу да гітлераўскіх рабаўнікоў. Нявольніца Стэфа з Полацкага раёна пісала з катаргі: «Гаспадар наш — люты звер... Мяне білі дзесяць разоў і два разы кідалі ў халодны склеп за тое, што я ўзяла на панскай кухні 2 бульбіны — не магла вытрымаць галаду. Працуем мы, як праклятыя, а атрымліваем у дзень кавалак сырога мякіннага хлеба і палонік бруднай поліўкі, якую ў нас не далі б і свінням... Немцы расстрэльваюць усіх, хто знясілены зусім і не можа больш гнуць на іх спіну. На кожным кроку мы бачым смерць, слёзы, пакуты нашых людзей. О, як цяжка і балюча мне, родныя мае! Вырвіце мяне з гэтага пекла, мае родныя браты, з лап смерці»[1].

Аднак зусім інакш выглядала жыццё беларусаў, вывезеных у Германію, у нацыяналістычным друку. Газеты агітавалі ехаць на працу ў Германію — там, маўляў, «перасяленцаў» чакае райскае жыццё. Шэф СБМ Ганько і яго намеснік Абрамава распісвалі свае паездкі ў Германію да «шчаслівых землякоў» на старонках часопіса «Жыве Беларусь». Яны сцвярджалі, што нібыта ў Германіі «перасяленцы» сустракалі іх моцным поціскам рук, што яны акружаны там клопатамі і ўвагай. А шэф па прапагандзе і друку А. Адамовіч пасля паездкі ў рэйх і наведвання «працоўных лагераў» савецкіх грамадзян даў за-

[1] ЦДАКР БССР, ф. 871, в. 1, а. з. 6, л. 1.

гад нацыяналістычным газетам, часопісам і радыё «сістэматычна папулярызаваць прыгожае жыццё беларускага насельніцтва ў Германіі».

У адным з артыкулаў, ілюстраваным фотаздымкамі, гаварылася: «Шэрым лістападавым ранкам чуцён прарэзлівы свісток. Хутка ўстаюць белагаловыя юнакі і шпаркімі тэмпамі бягуць асвяжацца пад кранам халоднае вады. Дружна прыбіраюць койкі, наводзяць узорную чысціню памяшканняў. Некаторыя з іх з вялікай рупнасцю завіхаюцца на лагернай кухні, дзе выдаюць снеданні апошнім. Вельмі я здзівіўся, калі пабачыў на стале каля кожнага белы хлеб, кавалак каўбасы, паўміскі яблычнага варэння і дзве булачкі.

8 гадзін раніцы. На падворку стаяць тры шарэнгі, маленькая гутарка кіраўніка лагеру напамінае юнакам аб іхнім штодзённым заданні... Юнакі не абмяжоўваюцца на культурным правядзенні працы ў сябе, яны кожную другую нядзелю ідуць у кіно, дзе бачаць прыгаство нямецкага фільмавога мастацтва. Кожную нядзелю юнакі на чале са сваім кіраўніком лагеру П. Весялухай ладзяць экскурсіі за горад і часта сустракаюцца з жыццём нямецкага селяніна. Святочнымі днямі адпачываюць у гарадскім парку, дзе нават могуць развесяліцца ігрою ў сетку і футбольным матчам»[1] і г. д. Той, хто

[1] «Жыве Беларусь» № 6, 1943.

пераражыў усе жудасці нямецкага рабства, зразумее, прачытаўшы гэту цытату, да якога маразму дакаціліся фашысцкія халуі.

Крывадушнічаючы, спрабуючы любымі сродкамі падмануць народ, Адамовіч наладзіў нават выступленне па нямецкай радыёстанцыі «беларускіх дзеячоў». Аляхновіч чытаў па радыё свае апавяданні аб «райскім жыцці» ў Германіі, Арсеньева — вершы, Казлоўскі, Сядура, Віцьбіч, С. Станкевіч, Іваноўскі, Сіняк, Кавыль і іншыя — артыкулы, у якіх расхвальвалі жыццё нявольнікаў. Больш таго, Адамовіч пачаў арганізоўваць выступленні па радыё «былых калгаснікаў» з «удзячнымі Гітлеру прамовамі». «Але ж вельмі груба і няўмела ўсё гэта робіцца, — зазначаў наконт гэтага ў памфлеце «Не паддавайцеся на правакацыі» Пімен Панчанка. — Выступаючыя «сяляне» і мовы нашай не ведаюць, і голас іх кожны раз адзін і той жа — прапіты бас белагвардзейца». Пімен Панчанка абвяргае хлусню Адамовіча і папярэджвае беларускі народ, што нямецкія памагатыя — верныя служкі Гітлера. Пісьменнік заклікае не верыць ніводнаму іх слову, не слухаць прапаганды здраднікаў.

Многа вершаў, публіцыстычных артыкулаў і фельетонаў аб «зямельнай рэформе» напісаў Кандрат Крапіва. Гэта фельетоны і памфлеты «Як яны ехалі па зямлю», «Запрашаў ён нас у госці», «За савецкім мёдам», «Мы аддзякуем» і іншыя. У палымяным вы-

ступленні па радыёстанцыі «Савецкая Беларусь» Кандрат Крапіва заклікаў беларусаў: «Не слухайце салодкага голасу здраднікаў, хоць бы яны гаварылі з вамі сваёй роднай мовай. Акупанты падсылаюць да вас сваіх халуёў, каб лягчэй было адзець ярмо на беларускую шыю. Агляніцеся вакол сябе! Паглядзіце на руіны Мінска і Гомеля, на папялішчы Магілёва і Оршы, паглядзіце на вісельні Віцебска! Палічыце, колькі родных і блізкіх вашых замучана фашысцкімі вырадкамі. Паглядзіце на слёзы юнакоў і дзяўчат, якіх гвалтам вывозяць на фашысцкую катаргу ў Германію. Паглядзіце на ўсё гэта, і вам стане ясна, што прынёс фашызм беларускаму народу»[1]. Кандрат Крапіва звяртае ўвагу на хлусню нацыяналістычнага друку, бессаромны брэх былых кулакоў і падкулачнікаў, памешчыкаў і ксяндзоў. І з вуснаў пісьменніка вырываецца перапоўнены грамадзянскімі пачуццямі гнеў: «Дрыжыце, гадзюкі! Забівайцеся ў каменныя норы! Выйце са страху перад расплатай! Грозны час крывавай расплаты надыйшоў! Грозны рахунак народнай помсты прад'яўлен! Аплачвайце яго сваёй паганай крывёй»[2].

Сумленне пісьменніка не магло не клікаць да помсты, калі да яго траплялі сакрэтныя памяткі і дакументы, у якіх акупанты пісалі

---

[1] ЦДАКР БССР, ф. 871, в. 1, а. з. 8, л. 91.
[2] Там жа.

аб сапраўднай сутнасці зямельнай рэформы і прымусовым вывазе насельніцтва на катаргу ў Германію: «Немец! — паведамлялася ў адной з такіх сакрэтных памятак. — Для таго, каб павялічыць вытворчасць германскіх прадпрыемстваў, узнікла неабходнасць прывезці рабочых з Савецкай Расіі. Заўсёды паказвай ім, што ты з'яўляешся іх гаспадаром. Будзь з імі заўсёды толькі суровы. Не завязвай з імі ніякіх асабістых адносін. Абмяжоўвайся толькі аддачай загаду. Не рабі нічога такога, што магло б аблегчыць іх становішча. Рабі так, каб яны працавалі як мага больш інтэнсіўна. Не цярпі марудных. Калі бачыш якія-небудзь адзнакі маруднасці — адразу паведамляй паліцыі. Паведамляй паліцыі ўсякі раз, калі ў цябе ўзнікаюць самыя малыя падазрэнні. Заўсёды паказвай савецкім рабочым, што ты вышэй іх. Трымай іх на адлегласці»[1]. Хто мог заставацца раўнадушным, даведаўшыся аб такіх дакументах? Кожны думаў: лепш смерць, чым такое жыццё.

Адзін за адным друкаваліся ў газетах «Савецкая Беларусь», «За Савецкую Беларусь», «За свабодную Беларусь», «Раздавім фашысцкую гадзіну» памфлеты і фельетоны Кузьмы Чорнага. Нацыяналістычны друк, зазначае пісьменнік у памфлеце «На нашай зямлі хоча гаспадарыць нямецкі пан», тлумачыць рэформу так: «Пакуль ідзе вайна, зямля

[1] ЦДАКР БССР, ф. 871, в. 1, а. з. 10, л. 10.

будзе апрацоўвацца абшчыннай талакой. Кіраваць гэтай абшчыннай гаспадаркай прыедзе з Германіі нямецкі інструктар. Гэта значыць, з'явіцца з Германіі на нашу шыю пан. За работу сяляне не атрымаюць хлеба, а ім заплацяць грашыма — акупацыйнымі маркамі, за якія нідзе нічога не купіш». Пісьменнік зазначае, што гэта будзе самая лютая паншчына, якой не ведалі нашы дзяды і прадзеды. «Тры аршыны магільнай зямлі для немца — гэта самая найлепшая зямельная рэформа», — заключае Чорны.

У памфлеце «Што пасееш, то і пажнеш», напісаным з выпадку прыезду вялікай групы інструктараў з Германіі для правядзення «зямельнай рэформы» на Беларусі, Кузьма Чорны заклікае ўсіх, хто толькі можа трымацца на нагах, сустракаць інструктараў-баронаў «куляй і віламі». З агідай пісьменнік гаворыць аб подлай дзейнасці нацыяналістычнага «Віцебскага сельскагаспадарчага лістка», — газеты, у якой нацыяналісты віталі «прыгаство вядзення гаспадаркі нямецкімі спецыялістамі». Гэты наскрозь ілжывы лісток з нумара ў нумар друкаваў розныя «інструкцыі», даваў «рэцэпты» як лепш апрацоўваць зямлю, як арганізаваць «абшчынную талаку» і г. д. Асобныя выразы адной з такіх «парад» Кузьма Чорны прыводзіць у сваім памфлеце. Яе ідэя гучыць так: «Гарадская ўправа прапануе ў арэнду пад агароды ўчасткі на пажарышчах. Гэта вельмі добрая справа». Кузьма

Чорны тут жа з іроніяй зазначае: «Дзіва што добрая! Прыцягнуўся, спаліў табе хату і бярэ за горла: апрацуй мне месца, дзе стаяла твая хата».

З прыходам нямецкага варання, акрамя смерці, вісельні, здзекаў і пакут, зазначае Кузьма Чорны ў памфлеце «Нямецкае вараннё над Случчынай», народ чакае яшчэ і цяжкая, паднявольная праца на гітлераўскага міраеда. І таму ён заклікае: «Кол у горла кожнаму зондэрфюрэру, а не наша зямля! Ніякага паслухмянства перад немцамі! Ніякай спагады гадзіне! Няхай кожны зондэрфюрэр у зробленым на нашай зямлі маёнтку ўдушыцца ў лапах паганай смерці, з віламі ў чэраве ці куляй у тупой галаве».

Савецкія людзі горача адгукнуліся на заклік аказваць рашучае супраціўленне «зямельнай рэформе». У газеты «Савецкая Беларусь», «Раздавім фашысцкую гадзіну», на радыёстанцыю «Савецкая Беларусь» пачалі прыходзіць пісьмы з часова акупіраванай тэрыторыі ад асобных сялян, у якіх расказвалася пра цяжкую няволю, пра непакорнасць народа. «Многа мы нацярпеліся і церпім ад фашысцкіх выродкаў,— пісалі сяляне адной з вёсак на радыёстанцыю «Савецкая Беларусь».— Церпім голад, грабежніцтва, пакуты і смерць нашых дзяцей. Але тое, што зрабілі ў нашай вёсцы ўчора, было самым агідным і страшным. З самага ранку староста пачаў зганяць усіх на сход... І вось, калі мы сабра-

ліся, таўстаморды пан пачаў сваю прамову. Расказваў нам пра новыя зямельныя парадкі, якія немцы думаюць устанавіць у нас. Гаварыў ён многа, але мы зразумелі толькі адно: не бачыць нам зямлі нашай роднай, як сваіх вушэй... Раздадуць яе нямецкім панам, фашысцкім прыслужнікам і кулакам». Далей сяляне расказвалі, што пасля прамовы таго пана яны цішком падаліся ў лес да партызан.

Рэдактар газеты «За свабодную Беларусь» Ілья Гурскі таксама прысвяціў нямала памфлетаў і фельетонаў выкрыццю цынічнай пісаніны нацыяналістаў аб «зямельнай рэформе» і «райскім жыцці» на катарзе ў Германіі. У памфлеце «Крывавая дзейнасць здраднікаў» ён паказвае галерэю забойцаў, якія будавалі сабе маёнткі: былога эмігранта Б. Радзько — начальніка Віцебскай гарадской управы, што атрымаў загад ад гестапа скласці спіс усіх савецкіх актывістаў і іх сем'яў у Віцебску, белаэмігранта, начальніка віцебскай паліцыі Шостака, начальніка віцебскай турмы Міхайлава і іншых. Помніце, папярэджвае савецкіх людзей пісьменнік, што ўсе фашысцкія паслугачы такія ж злыя ворагі, як і немцы, толькі яшчэ больш небяспечныя, бо яны ведаюць усё наша жыццё.

Гэтае папярэджанне пісьменніка не было выпадковым.

Заканчваўся 1942 год. Чырвоная Армія наносіла немцам адно паражэнне за другім. У гэты час Вільгельм Кубэ патрабаваў ад

старшыні «Беларускай нацыянальнай самапомачы» стварэння «корпуса самаабароны», што азначала стварэнне ў Беларусі з былых белагвардзейцаў, эмігрантаў, розных злачынцаў паліцэйскіх батальёнаў. Ермачэнка, Адамовіч, Гадлеўскі, Саковіч, Іваноўскі, Казлоўскі, Аляхновіч, Арсеньева, Сядура, Сіняк, Ганько, Абрамава і многія іншыя здраднікі звярнуліся з заклікам да беларусаў уступаць у «Беларускую краёвую абарону». З мэтай планамернай агітацыі за арганізацыю «баёвых адзінак» пачаў выдавацца часопіс пад цынічнай назвай «Беларус на варце». У першым нумары гэтага часопіса, які меў неахайны выгляд і брахлівы змест, ставіліся задачы і мэты перад «арміяй»: «Мы бачым сваю нацыянальную зацікаўленасць у саюзе з немцамі. Ніхто дагэтуль не даў нам гэткай магчымасці для нашага нацыянальнага, культурнага і гаспадарчага жыцця, які далі нам немцы. Таму мы супрацоўнічаем з імі як саюзнікі... Гэтым мы бярэм удзел у цяперашняй вайне і здабываем сабе права на існаванне ў будучай новай Еўропе»[1].

У гэтым жа нумары Сяргей Сіняк паведамляў са Слоніма аб напружаным жыцці «баёвых атрадаў». Былі дні, пісаў ён, калі яны знішчалі па 100 і больш партызан, «У нас, — прызнаваўся злачынец, — нарадзіўся, калі так можна сказаць, апетыт да зброі,

---

[1] «Беларус на варце» № 1, 1943.

і гэтую справу рушаць нашыя абуджаныя нацыянальныя пачуцці» [1].

Дорага абышоўся беларусам гэты звярыны «апетыт». Там, дзе з'яўляліся галаварэзы «краёвай абароны», лютавала смерць, гарэлі вёскі, гінулі старыя і малыя. У лісце селяніна Кастуся Лагоўскага з Лельчыцкага раёна, якое праз падпольшчыкаў трапіла на радыёстанцыю «Савецкая Беларусь», расказвалася аб крывавых справах «баявых адзінак», якія сёння выхваляе ў сваім «Беларускім голасе», што выдаецца ў Канадзе, былы гітлераўскі найміт С. Сіняк. Яны разам з эсэсаўцамі сабралі ў Лельчыцах звыш тысячы старых, жанчын і дзяцей, загналі іх у будынак. Мужчынам загадалі капаць яму. Затым вадзілі па 80—100 чалавек да гэтай ямы і расстрэльвалі з аўтаматаў. Самых малых дзяцей жывымі кідалі ў яму. «Дзяцей ва ўзросце 4—5 гадоў,—паведамляў К. Лагоўскі,—людаеды бралі за ногі і рукі, а затым ударамі спіной па калодзе ці па калену ламалі спіну і кідалі ў яму. Старых таксама жывымі кідалі ў яму, а пасля страчылі з кулямётаў. Енкі людзей, плач жанчын і дзяцей некалькі гадзін чуліся над гэтай магілай... Калі яму засыпалі, то пясок варушыўся 30 хвілін. На паверхні выступіла кроў, і людзі тапіліся ў сваёй уласнай крыві» [2]. Такіх абвінаваўчых даку-

[1] «Беларус на варце» № 1, 1943.
[2] ЦДАКР БССР, ф. 871, в. 1, а. з. 5, л. 21.

ментаў многа. У Оршы і Лёзна, напрыклад, людзей вешалі не за шыю, а за падбародак, прадзяваючы праз яго жалезныя кольцы і замаруджваючы гэтым перадсмяротныя мучэнні [1].

«Факты і факты... Цяжка, вельмі балюча сёння цытаваць іх. — Гнеўным голасам гаварыў перад мікрафонам Кандрат Крапіва. — Ад гэтых фактаў стыне кроў у целе, пратэстуе чалавечае сумленне. Біце іх, свалачэй, за слёзы, за кроў, за пакуты майго народа» [2]. Той жа суровы пратэст, той жа палымяны заклік да бязлітаснага знішчэння гітлераўскіх памагатых гучыць у Якуба Коласа: «Цёмныя сілы зла і разбурэння віхрам праходзяць па зямлі. Тысячы мірных паселішч абернуты ў руіны і попел. Мільёны савецкіх людзей кінуты ў бяздонне пакуты, голаду і галечы. Сотні тысяч сірот аплакваюць сваіх родных і блізкіх. Зямля заліта людской кроўю. На нашы светлыя прасторныя шляхі мірнай працы і няспыннага руху наперад выйшаў разбойнік з многамільённымі ордамі забойцаў, каб спыніць наш рух, загарадзіць нам дарогу, заваліўшы яе фашысцкім брудам і паставіць над імі сцяг свастыкі... Разгарні ж шырэй магутныя плечы, яшчэ цяжэй апускай на галовы грабежнікаў смертаносныя ўдары. Няхай кожны двор твой і вёска, кожны лес і

[1] ЦДАКР БССР, ф. 871, в. 1, а. з. 8, л. 13.
[2] Там жа, л. 15.

пералесак, і кожны загон тваёй зямлі стануць смяртэльным прыпынкам для нямецкіх крыважэрцаў. Няхай у кожным з вас сустрэнуць яны зацятага і суровага ворага-воіна і ні ад каго з вас не пачуюць яны добрага слова» [1].

Кроў за кроў і смерць за смерць — так адказваў беларускі народ здраднікам. 13 лістапада 1943 года нямецкі служака Уладзіслаў Казлоўскі быў забіты партызанамі. 5 сакавіка таго ж года быў забіты Фабіян Акінчыц і многія іншыя завадатары буржуазнага нацыяналізму.

У сваёй здрадніцкай дзейнасці вылюдкі не зналі меры. Яны гатовы былі разаслацца пад фашысцкім ботам, каб толькі быць падобнымі на «чыстых арыйцаў».

Францішак Аляхновіч у газеце «Беларускі голас» друкаваў п'есы «Цені» і «Бутрым Няміра», шматлікія вершы, апавяданні, дзе, вітаючы бандытызм паліцэйскіх батальёнаў, пісаў: «Твой, Беларусь, пачаўся Рэнесанс цяпер». А Наталля Арсеньева так плённа працавала ў тыя гады, што, акрамя шматлікіх вершаў пра «Беларускую краёвую абарону», у садружнасці з кампазітарам М. Шчагловым пісала маршы і песні для «баёвых адзінак». У адной з іх пад назвай «Наша мэта — шчасце» Арсеньева вітала «новы парадак», заклікала абараняць яго, змагацца не на жыццё, а на смерць.

---

[1] ЦДАКР БССР, ф. 871, в. 1, а. з. 8, лл. 57—59.

Такія заклікі нацыяналістычнай паэтэсы выклікалі агіду і справядлівую нянавісць савецкіх пісьменнікаў. В. Таўлай, напрыклад, у адным з сваіх вершаў, надрукаваных у 1944 годзе ў газеце «Раздавім фашысцкую гадзіну», праўдзіва перадаў пачуцці беларускага народа да здрадніцы Арсеньевай:

**Табе, пяюння жаўтавосеньскіх дарог,**
**І неба сінягa, і здрадніцкага хлеба,**
**Такую кару наш народ збярог:**
**Не помніць ні цябе, ні твайго неба.**

**Тым часам на нямецкую пятлю**
**Усмешак, рыфмачак ніжы каралі**
**І «аптымізм» на ганарар пытлюй,**
**Ад помсты засланяючыся, краля!**

Акрамя таго, Арсеньева часта выступала ў фашысцкім друку ў ролі маралiста, у хлуслівым і выгадным акупантам тоне паказваючы творчасць вядучых беларускіх паэтаў і празаікаў. Яна паклёпнічала на савецкіх пісьменнікаў-патрыётаў і, пераступіўшы межы крывадушша, сцвярджала: «Таленавітым пісьменнікам з прыходам немцаў ёсць дзе праявіць свае здольнасці. Усяму вольнаму, даравітаму адкрыта цяпер свабодная дарога на творчы Парнас».

Але ў той час кожнаму было вядома, што

сумленным, таленавітым літаратарам на часова акупіраванай тэрыторыі была адна дарога: у канцэнтрацыйныя лагеры і на шыбеніцу. І ніхто з савецкай інтэлігенцыі не пайшоў з фашыстамі і іх наймітамі. «Не будзем гадаць, — зазначае ў памфлеце «Фальшывыя культурнікі» Пятро Глебка, — куды будзе «адкрыта дарога», на шыбеніцу ці ў канцэнтрацыйны лагер, у цёмны падвал гестапа або ў крывавыя лапы здраднікаў. Ясна адно: сапраўдным талентам на часова акупіраванай тэрыторыі адна дарога — мучэнні, здзекі і смерць». П. Глебка з абурэннем піша, што ў абдымкі СД і СС кінуліся такія «выдатныя дэгенераты», як Віцьбіч, Аляхновіч, Арсеньева, Гадлеўскі, Сядура. «Да гэтых падонкаў, — падкрэслівае паэт, — фашысты могуць далучыць яшчэ некалькі «дзеячоў», якіх яны выдаюць за «рускую інтэлігенцыю». Гэта рэдактар Брант, нейкі вар'ят Блюменталь-Тамарын і збіральнік пахабных прыпевак на Чэрвеньшчыне Курт Люк. Якія каларытныя «рускія» прозвішчы! Брант, Блюменталь, Люк! Не дзіва, што нават самыя даверлівыя людзі не вераць у іх рускае паходжанне. Вось чаму фашысты вымушаны займацца фальсіфікацыяй, на сваіх кніжках яны ставяць назвы савецкага «Воениздата», свае хаўтурныя вершыкі яны падпісваюць чужымі імёнамі... Але беларускі народ добра разбіраецца, дзе таленавітыя людзі і праўда, а дзе дэгенераты і фальш. І як бы ні стараліся фашысты і іх

паслугачы, ніхто іх пахабнай «літаратуры» не возьме ў рукі, нават ідучы да ветру»[1].

Зараз Наталля Арсеньева, зазначае Алесь Бажко, ціха сноўдае па цёмных гарадскіх ускраінах «богам абетаванай Амерыкі» і горка плача па Радзіме. Але яе слёзы нікога не кранаюць. Яна плача і марыць аб новых прыгодах у Беларусі пад аховай іншаземных захопнікаў [2].

Ад Арсеньевай не адставаў і Міхась Кавыль, «собскі талент якога баявы і наступальны», як пісаў аб ім Уладзіслаў Казлоўскі на старонках «Беларускай газэты». Талент Міхася Кавыля асабліва праявіўся ў маршах і паходных песнях, якія ён змяшчаў амаль у кожным нумары часопіса «Беларус на варце». Вітаючы забойствы, знішчэнне беларускага народа, гэты вершаплёт ад паліцэйскай паэзіі плявузгаў пра «новы этап» у вызваленчай барацьбе, «новы ўздым», званіў пра «крыжовы паход крывічанскага войска», разумеючы, відаць, пад гэтым крывавыя справы «баёвых адзінак».

«Баёвыя адзінкі» сумесна з эсэсаўцамі ў вёсцы Рагі Мінскай вобласці распарвалі людзям жываты і набівалі іх пяском [3]. У Віцебскай вобласці локаць у локаць, дапамагаючы карнікам, яны спалілі цэлы Асвейскі раён.

---

[1] «За свабодную Беларусь», 9 мая 1943 г.
[2] «На задворках». Мінск, 1970, стар. 75.
[3] ЦДАКР БССР, ф. 871, в. 1, а. з. 13, л. 3.

У раёне не засталося «ніводнага цэлага дома, ніводнай уцалеўшай пабудовы — усё папялішчы і груды руін. Тысячы жыхароў раёна загінулі ў агні і руінах сваіх дамоў... З халодным цынізмам дзікія звяры ўтапілі ў рацэ Овальна 3 639 мірных жыхароў, 2 118 чалавек з іх — дзеці да 12-гадовага ўзросту» [1].

А Сяргей Сіняк вызначыўся сярод нацыяналістычнай літаратурнай хеўры тым, што пісаў так званыя «Хаўтурныя маршы» спецыяльна для «Беларускай краёвай абароны», якія заказваў яму Кушаль, галоўны рэдактар часопіса «Беларус на варце». У гэтых «маршах» Сіняк заклікаў «крывічанскае войска» «піць кроў ворага» — чытай беларускага народа, — каб «Беларусь славай зор апрануць», бо:

**Крывічанскае войска спявае,**
**У крывавы рыхтуецца бой [2].**

Вітаючы магільныя курганы на Беларусі, «паўсюдныя крыжы» на дарогах і вёсках, Сіняк абяцаў беларускаму народу, што «для яго ласкі не будзе» [3].

Сіняк, пасля таго, як былі забіты партызанамі Іваноўскі, Казлоўскі, Гадлеўскі, Аляхновіч, Акінчыц і іншыя верхаводы нацыяналістаў, спрабаваў абвясціць сябе «ідэолагам»

[1] ЦДАКР БССР, ф. 871, в. 1, а. з. 13, л. 2.
[2] «Беларус на варце» № 6, 1944.
[3] Там жа.

нацыяналістычнага руху. Але, каб быць «ідэолагам», то, вядома, трэба мець нейкія ідэі, тэорыі ці маніфесты. І вось Сіняк разам з рэдактарам часопіса «Новы шлях» У. Сядурай пачалі рэкамендаваць на старонках гэтага выдання розныя «стылі» ў развіцці беларускай літаратуры, давалі «рэцэпты» і вызначалі «асноўныя напрамкі адроджанага германцамі беларускага мастацтва». Калі гаварыць пра гэтыя новыя напрамкі, пісалі яны, «дык трэба ў першую чаргу сказаць, што справа тут не ў якім-небудзь «стылі». Тут трэба ўсвядоміць галоўнае пытанне аб узнаўленні мастацтва ў межах тых законаў, якімі пасля духоўнай рэвалюцыі нацыянал-сацыялізму падначалена ўсё жыццё...» [1].

У. Сядура і С. Сіняк надакучліва рэкамендавалі ў якасці прыкладаў вучыцца ствараць «высокамастацкія творы» ў такіх фашысцкіх «мастакоў», як Герман Каспар, Томас Баўмгартнер, Георг Элік, Адольф Цыглер, Паўль Падуа, Курт Лейда, Герберт Тыберт і іншыя, скульптары Фрыц Клімаш, Вольфганг Граўэ. Яны аж захлёбваліся, расхвальваючы «Дом нямецкага мастацтва» ў Мюнхене, дзе, як пісаў Кандрат Крапіва, «акрамя дэгенератаў Гітлера, Гімлера, Гебельса і іншых гарыл, нічыіх бюстаў і партрэтаў не было» [2]. Прычым, гэтае расхваль-

---

[1] «Новы шлях» №№ 1—8, 1944.
[2] ЦДАКР БССР, ф. 871, в. 1, а. з. 13, л. 17.

ванне суправаджалася каментарыямі да фотаздымкаў: паглядзіце, маўляў, якое хараство! Мы, беларусы, можам мець таксама такое, толькі навошта супраціўляцца «новаму парадку», які прынеслі германцы і які парушаюць партызаны. Налаўчыўшыся ў СД ашуканству і падлогам, У. Сядура і С. Сіняк ліслііва ўгаварвалі беларускі народ спыніць партызанскую вайну: «Усе людзі роўныя, усе хочуць жыць і маюць на гэта роўнае права» [1], — сцвярджалі здраднікі.

Прыкідваючыся, што яны хочуць міру Бацькаўшчыне, вылюдкі пісалі, што мір наступіць адразу ж, як толькі беларускі народ зложыць зброю і партызаны выйдуць з лясоў: «Нам жа няма чаго сварыцца, бо ў нас адна маці — Беларусь». Хаця гэткае міратворства Сіняк і Сядура выдавалі за сваё, мы ведаем, што нацыяналісты даўно прапаведвалі класавы мір — яшчэ тады, калі яны абвясцілі праграму культурна-нацыянальнай аўтаноміі для Беларусі. Успомнім перадавы артыкул першага нумара газеты «Наша ніва» за 1 верасня 1906 года. Калі беларускі народ сумесна з іншымі народамі Расіі выступіў адзіным фронтам супраць царызму, нацыяналісты ў якасці сваёй праграмы вылучылі лозунг: «Не думайце, што мы хочам служыць ці панам ці мужыкам. Не, ніколі не! Мы будзем служыць усяму пакрыўджанаму

---

[1] «Новы шлях» № 8, 1944.

беларускаму народу». Праз шэсць год, у час новага рэвалюцыйнага ўздыму, буржуазныя нацыяналісты на старонках той жа «Нашай нівы» (№ 1, 1912 год) зноў пацвердзілі сваю праграму аб беларусах, як аб адзінай нацыі, якой патрэбен спакой: «Усе беларусы — гэта родныя браты, гэта адна сям'я, дзевяцімільённая грамада раскінутых на вялізным абшары беларусаў — гэта адзін суцэльны народ». У той час ідэя нацыянальнай эмансіпацыі зводзілася нацыяналістамі да вузкіх нацыянальна-буржуазных інтарэсаў, пропаведзі спакойнага жыцця, няўдзелу ў рэвалюцыйных падзеях, замазвання класавай барацьбы. У гады Вялікай Айчыннай вайны пропаведзь здраднікаў аб спакоі і міры, адзінстве беларускага народа патрэбна была для паняволення Беларусі, устанаўлення на яе тэрыторыі «новага парадку» — гітлераўскага панавання. Дарэчы, на старонках часопіса «Баявая ўскалось» (Таронта, Канада) Сяргей Сіняк і цяпер балабоніць пра адзінства: «Беларуская культура адзіная! Колькі б яе не дзялілі дзяржаўнымі межамі, колькі б не раздзіралі яе пад пакровам ідэалогіі,.. яна была і ёсць адзінай! Як адзіным ёсць беларускі народ, ці пражывае ён у Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы, ці пакутуе... у джунглях Паўднёвай Амерыкі, ці запусціў з прымусу карані ў новых краінах пасялення, як Канада, Амерыка, Аўстралія, Еўропа. Беларуская культура адна, і мы з'яўляемся част-

кай гэтай культуры!.. І ў нас б'ецца тое самае беларускае сэрца» [1].

Дзе ж тады логіка? У гады Вялікай Айчыннай вайны пад аховай акупантаў Сіняк заяўляў, што паявіўся «апетыт да зброі», пасля плёў нешта пра тое, што беларусы — адна сям'я, пра мір і спакой, цяпер распінаецца пра нейкае адзінства! З кім адзінства? З забойцамі і здраднікамі? Па Сіняку выходзіць так: з забойцамі і злачынцамі.

Варта дадаць, што сама «Ускалось», якую цяпер рэдагуе Сіняк, пачала выдавацца з дапамогай фашыстаў. Сам Сіняк так піша пра гэта: «У абставінах гітлераўскага панавання групка ініцыятараў аднаўлення літарганізацыі ў Берліне прыступіла да ахвармлення літаратурнай Сустані... Аднак падзеі апошніх месяцаў вайны перасяклі дзейнасць Сустані. Амаль што ўжо надрукаваны 200-старонкавы літаратурны зборнік «Ускалось» згінуў у друкарні ў Ляйпцыгу падчас бамбардавання саюзнымі самалётамі гораду» [2].

Нямала артыкулаў «пра зорку шчаслівага адраджэння беларускага народа пад ахоўным мечам Адольфа Гітлера» змяшчалі ў гады вайны Сядура, Сіняк, Станкевіч, Абрамава, Арсеньева, Ганько на старонках сваіх газет. Яны пралівалі кракадзілавыя слёзы аб тым, што, калі б не вайна, не іх змаганне, то бе-

---

[1] «Баявая ўскалось» № 10, 1970.
[2] Там жа.

ларусаў, як нацыі, ужо б і не было ўвогуле: «Нас проста бярэ жах на думку, што чакала наш народ. Рэч зусім ясная: яшчэ 15—20 год—і беларускага народу ўжо і не было б... Ён растварыўся б у інтэрнацыянальнай масе... Гэтыя сумныя перспектывы нашага народу ніколі не маглі цешыць свядомых беларускіх працаўнікоў і змагароў, шчырых і ахвярных сыноў Беларусі. Таму мы ніколі не пакідаем змагацца з гвалтам і здзекам. Тым больш цяпер, калі да нас залунала зорка вызвалення, цешымся з гэтае магчымасці нацыянальнага адраджэння і, дарма што вялікія цяжкасці і няўпэўненасць заўтрашняга дня, нястомна працуем і змагаемся» [1]. Над чым жа так старанна і «геройчна» працавалі «шчырыя і ахвярныя сыны» Беларусі ў плане адраджэння «крывіцкага краю»? Часопіс «Гаспадар» пісаў, што «адраджэнне праводзіцца з пункту гледжання карысцяў для далейшага вядзення вайны» [2]. А. Абрамава пела гэткія дыфірамбы фашыстам: «Колькі ўвагі прыдае Нямеччына развіццю нашага дабрабыту, як падштурхоўваецца ініцыятыва, як вышукваюцца здольныя, як падтрымліваецца і песціцца творчая думка, як моцна прымушаюць да працы на нашу ж карысць» [3]. Тут што ні слова—несусветная хлусня, і хлусіла

---

[1] «Жыве Беларусь» № 6, 1943.
[2] «Гаспадар» № 1, 1943.
[3] «Жыве Беларусь» № 1, 1943.

Абрамава для таго, каб прадоўжыць сваё існаванне, дагадзіць фашысцкім гаспадарам.

Вядома, наскрозь брахлівая пісаніна аб «адраджэнні Беларусі» пад гітлераўскім ботам балюча кранала гонар беларускага народа і не магла не выклікаць пратэсту. Міхась Лынькоў, які востра рэагаваў на кожную такую авантуру, зрывае маску з іх твораў і паказвае сапраўднае аблічча: «Бачыце, гэтае змаганне часта ўзнімалася ледзь не да вышэйшых ступеняў гераізму і самаахвяравання... Толькі безнадзейна спустошаныя духоўна, багата натрэніраваныя на найцяжэйшых злачынствах перад чалавецтвам і чалавечнасцю, набыўшыя крывавы вопыт бязлітасных расправаў над безабароннымі старымі, жанчынамі і дзецьмі могуць дайсці да такіх апраўданняў сваіх нечуваных, пачварных злачынстваў» [1].

Якубу Коласу быў дарагі патрыятызм беларускага народа, яго нацыянальны гонар, інтэрнацыяналізм і яго братняя дружба з іншымі нацыямі і народнасцямі. Рашуча выкрываючы маніфест аб «нацыянальным адраджэнні», ён сцвярджаў, што такое можа прапагандаваць толькі той, хто «побач з фашысцкай паганнию» спрабуе паставіць свабодалюбівы беларускі народ на калені перад акупантамі і ў той жа час цынічна пісаць у сваіх «паскудных газетках», што з'яўляецца

[1] «На задворках». Мінск, 1970, стар. 5.

«абаронцам народа». Ці не таму пісьменнік увасабляе ў вобліку здраднікаў Радзімы розных падонкаў грамады, людскі бруд, прайдохаў, крымінальнікаў, ад якіх адвярнулася «чуллівае сэрца» людзей, і якіх з усіх «смярдзючых катухоў» выцягвае на свет чалавеканенавіснік Гітлер.

Будучы страсным прапагандыстам маральнай чысціні і высокага патрыятычнага гонару роднага народа, Якуб Колас з поўным правам гаварыў: «Мы ведаем, хто такія гэтыя гітлераўскія лёкаі, што ліжуць нямецкі бот. Гэта — людзі без роду і племені, здраднікі сваёй Айчыны, двуногія стварэнні, якія ганьбяць годнасць чалавека. Гэтыя басякі не звязаны ні з народам, ні з зямлёй. Для іх самае большае і святое ў жыцці — іх уласная скура, сабачы трыбух» [1].

Голасам, поўным ваяўнічага аптымізму, веры ў тое, што беларусы адвергнуць несусветную хлусню і да канца выканаюць свой грамадзянскі абавязак перад сацыялістычнай радзімай, Якуб Колас гаварыў: «Усе патугі нямецкіх ашуканцаў скіраваны ў адзін бок, нацэлены ў адзін пункт: давесці, што фашысцкі «новы парадак» ёсць самы дасканалы на свеце. Свайго цірольскага яфрэйтара, шпіка і душагуба Гітлера яны абярнулі ў новага месіяша і не шкадуюць сваіх языкоў, каб вылізаць бруд сусветнага бандыта і машэнні-

---

[1] ЦДАКР БССР, ф. 871, в. 1, а. з. 9, л. 6.

ка»[1]. Чытаючы гэтыя радкі, хочацца падкрэсліць, што народны пясняр быў і назаўсёды застаўся прыкладам для кожнага савецкага чалавека ў адданасці сацыялісычнаму ладу жыцця, камуністычнай ідэалогіі, непахіснай веры ў вызваленне роднага народа ад гітлераўскіх акупантаў. Гэтая вера трывала і плённа садзейнічала пісьменніку быць заўсёды прынцыповым і бязлітасным у ідэйным змаганні са здраднікамі. І, вядома, кожнае слова Якуба Коласа, кожны яго радок былі магутнай падтрымкай у змаганні з фашысцкімі хаўруснікамі. Грозна гучаць радкі сцяганосца беларускай літаратуры: «Усе гэтыя здраднікі павінны запісаць на сваіх іудаўскіх лабацінах: усе яны стануць вядомы народу. Надыйдзе час, калі яны адчуюць усю бездань свайго падзення, апынуўшыся на краю чорнага прадоння. Як атрутнае зелле, яны будуць вырваны з карэннем... Іх папаліць агонь народнай нянавісці, а смуродны іх попел развеюць сухія вятры»[2].

Намаганні нацыяналістаў паказаць фашысцкі «новы парадак» як «адраджэнне», як вызваленне роднай Бацькаўшчыны, выкрывалі не толькі іх антынароднае аблічча, але і агульнасць іх планаў з планамі нацыстаў. У 1944 годзе ідэі «новага парадку» ўсё больш і больш адкрыта прызнаваліся і наса-

[1] «Савецкая Беларусь», 24 красавіка 1943 г.
[2] Там жа.

джаліся ў газетах і часопісах. У гэты час Савецкая Армія рыхтавалася да вызвалення рэспублікі. Партызанская барацьба атрымала новыя, нябачаныя дагэтуль памеры. Паўсюдна знішчаліся нацыяналістычныя прапагандысты, якіх рассылалі па вёсках і гарадах для агітацыі ўступаць у атрады «Беларускай краёвай абароны».

Народ помсціў гітлераўскім памагатым. Часопіс «Жыве Беларусь», які любіў крывадушнічаць на адносінах беларускага народа да нацыяналістаў, пісаў з горыччу: «Вялікі дзень 22 чэрвеня закончыўся ў Мінску вялікай катастрофай. Партызаны падлажылі пад Мінскі тэатр міну... Міна выбухнула а 18 гадзіне, прычыніўшы вялікія знішчэннні»[1], — так закончылася так званае «святкаванне дня вызвалення» Беларусі гітлераўцамі. Народная кара падсцерагала здраднікаў усюды. Шэф «Саюза беларускай моладзі» М. Ганько аддаў загад № 24 аб пахаванні вялікай групы членаў СБМ, якая выехала ў вёскі для вярбоўкі моладзі для службы ў «войску» нацыяналістаў. Часопіс друкаваў доўгі спіс пакараных народнымі мсціўцамі здраднікаў. Тут жа даваліся іх кароткія біяграфіі, з якіх было відаць, што гэта былыя белаэмігранты, сыны кулакоў, памешчыкаў, крымінальнікі, асуджаныя некалі за забойствы ці кражы. Яшчэ больш сумныя весткі знаходзім мы ў

[1] «Жыве Беларусь» № 2, 1944.

справаздачы начальніка ахоўных войск СД і СС генерала Гофмана, зробленай пасля экспедыцыйнай паездкі: «У раёнах узмацніўся націск партызан на прадстаўнікоў той часткі насельніцтва, якая жадае супрацоўнічаць з намі» [1].

У той жа час часопіс «Жыве Беларусь» прызнаваў сілу і размах народнага супраціўлення, узначальваемага камуністамі. «Гэтая агітацыя, якая вядзецца тонам вялікай упэўненасці, разлічана на тое, каб зламаць нашу волю, дэнэрваваць нас і псіхалагічна стэрарызаваць. Дык жа цяпер з нашага боку найбольш ахвяраў і найвялікшыя цяжкасці, якія мы толькі спатыкалі на нашым нацыянальным шляху... Мы не можам да гэтага адносіцца абыякава... Прапаганда выклікае правакацыі і масавы ды індывідуальны тэрор. У апошні час гэтыя тэрарыстычныя акты сталі асабліва частыя і ўжо здолелі адабраць некалькі вялікіх і вельмі патрэбных жыццяў Фабіяна Акінчыца, Уладзіслава Казлоўскага, Юліяна Саковіча, Сымона Кіслопа...» [2]

Разам з тым нацыяналісты ўзводзілі паклёп на партызанскі рух, дарэмна спадзеючыся аслабіць яго. Часопіс «Новы шлях» у адчаі пісаў: «Грамадзяне! Як доўга на нашай зямлі будуць дзейнічаць такія партызаны, якія па прычыне няведання і слепаты зрабі-

---

[1] ЦДАКР, ф. ГКТ, в. 1, а. з. 48, л. 2.
[2] «Жыве Беларусь» № 1, 1944.

ліся злачынцамі? Нашай бацькаўшчыне неабходны спакой і парадак, і кожны з нас для гэтага павінен зрабіць усё магчымае. Наш абавязак усюды казаць праўду, дапамагаць, тлумачыць сапраўдны стан рэчаў. Мы ўсе жадаем міру і добра ведаем, што гэтыя нікчэмныя партызаны не могуць спыніць канчатковага знішчэння сацыялізму» [1].

Гітлераўская Германія была разгромлена. Нацыяналісты тэрмінова пачалі шукаць на Захадзе новых гаспадароў. Імі сталі амерыканцы і англічане. Праўда, спачатку амерыканцы і англічане не давяралі людзям, якія служылі нацыстам. Аднак з наступленнем «халоднай вайны» адносіны да іх змяніліся. І нацыяналісты пачалі верна, як некалі Гітлеру, служыць доляраваму мяшку.

Каб апраўдаць прыслужніцтва перад фашыстамі, здраднікі з усіх сіл пачалі пераконваць грамадскасць, быццам іх служба гітлераўцам засталася незразумелай беларускім народам і некаторай часткай эмігрантаў. На самай справе, сцвярджаюць яны, ніякай службы акупантам не было, а было скрытае і надзвычай плённае «змаганне з фашызмам, змаганне ў абарону ўласных нацыянальных пазіцый на ўласнай тэрыторыі, у абарону ад фізічнага вынішчэння беларускага народа» [2]. Больш цынічна, бадай, і не скажаш.

---

[1] «Жыве Беларусь» № 2, 1944 г.
[2] «Баявая ўскалось» № 1, 1972.

Хто ж падтрымлівае гэтую бязглуздзіцу злачынцаў і вылюдкаў, ад якіх адвярнуўся народ? Ніхто, акрамя іх гаспадароў — імперыялістаў. Толькі нічым, ніякай хлуснёй, ніякім словаблудствам і падхалімствам ім нельга апраўдаць сваё крывавае мінулае. І дарэмна збіраюцца нацыяналістычныя недабіткі пабудаваць помнік «героям-ветэранам» «Беларускай краёвай абароны». Кожны беларус памятае і ніколі не забудзе, што гэта будзе помнік забойцам, карнікам, рукі якіх ніколі не адмыюцца ад крыві тысяч забітых дзяцей, жанчын і старых. Усяму свету вядома, што гітлераўцы пры старанная дапамозе калабарантаў, у якіх, як пісаў Сяргей Сіняк, быў «апетыт да зброі», знішчылі кожнага чацвёртага беларуса, цалкам зруйнавалі многія гарады, у папялішчы ператварылі цэлыя раёны.

Пры сяброўскай падтрымцы дружнай сям'і іншых народаў СССР беларускі народ не толькі залячыў раны, але адбудаваў і развіў эканоміку, навуку, культуру. Беларускія пісьменнікі, верна служачы свайму народу, ствараюць новыя выдатныя мастацкія творы. Нарадзілася новая, маладая плеяда таленавітых маладых паэтаў, празаікаў, драматургаў. Дык трэба ж такое — нацыяналістычныя эмігранты тут як тут. Крычаць на ўвесь свет, даказваюць, што і яны ўнеслі «вялізны» ўклад у развіццё беларускай паэзіі, прозы, драматургіі, што і яны — частка агульнанацыянальнай культуры. Сяргей Сіняк у сваёй «Баявой

ускалосі» заяўляе аб тым, што дарэмнымі з'яўляюцца спробы камуністаў аддзяліць іх ад народу — мы, маўляў, частка беларускага народу. «Вось чаму і на балонках нашага часопісу, — піша ён, — побач з творамі нашых эміграцыйных паэтаў і пісьменнікаў мы змяшчаем творы пісьменнікаў і БССР» [1].

І спадары-вызвольнікі змяшчаюць перакручаныя навыварат асобныя цытаты з твораў нашых пісьменнікаў на старонках сваіх выданняў, даюць беларускім пісьменнікам рэцэпты, рэкамендацыі, як і пра што пісаць. Яны нават «спачуваюць», што савецкія пісьменнікі «твораць у цісках партыйнасці, сацыялістычнага рэалізму». Клопатаў, як піша Анатоль Стук, у тых, каму даручана апякаць нацыянальныя літаратуры, а ў даным выпадку беларускую, хапае. Халуям здаецца, што без іх падказкі пісьменнікі не ведаюць, пра што пісаць і як пісаць. На гэту тэму яны гатовы адкрыць амаль што семінар для пісьменнікаў у эфіры [2]. Ужо вызначыліся нават некаторыя агульныя тэмы для размовы. Скажам, пісьменнік і сучаснасць. Думка, якую збіраецца ўнушыць той ці іншы «дарадчык», такая: «Сучаснае вытворчае асяроддзе не дае патрэбнага матэрыялу і тым самым вымушае пісьменніка пісаць пра тое, чаго няма ў сапраўднасці».

---

[1] «Баявая ўскалось» № 1, 1970.

[2] А. Стук. Перадачы вядзе ЦРУ. Мінск, 1974, стар. 170—171.

Асаблівы «клопат» аб развіцці беларускай літаратуры праяўляе былы бургамістр горада Барысава, «доктар філалогіі» Станіслаў Станкевіч. Стаўленік абвера, а цяпер агент ЦРУ, забойца соцень мірных жыхароў ператварыўся ў «настаўніка» і «дарадца» пісьменнікаў. Праўда, голас яго цяпер ужо не той, як у гады вайны, калі ён пад пагрозай смерці загадваў беларусам здаваць акупантам кажухі і валёнкі [1], а ліслівы, хітры, такі, які патрэбен яго новым гаспадарам. Таму «доктару» і не падабаецца любая пастанова Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада, накіраваная на палепшанне творчай дзейнасці пісьменнікаў. Выдаючы жадаемае за сапраўднае, ён тлумачыць гэтыя пастановы, як «чарговы націск на пісьменнікаў», як «паднос гатовых рэцэптаў творчага асэнсавання тэм і праблем». Таму, маўляў, некаторыя пісьменнікі змушаны або на нейкі час змоўкнуць, або шукаць розных спосабаў «абмінуць партыйныя абмежаванні» [2] і г. д.

Назіраючы цяпер, як спадар Станкевіч «шчыра» перажывае за лёс беларускай літаратуры, можна падумаць, што ён сапраўды

---

[1] У адным са сваіх загадаў бургамістр С. Станкевіч пісаў: «Работа па збору кажухоў і валёнак дае вельмі дрэнныя вынікі. Вінаватых у несвоечасовай здачы прадставіць мне для суровага пакарання. Адзначаю, што па гораду Барысаву і Нова-Барысаву павінна быць здадзена да 22.I.1942 г. 2 600 кажухоў і такая ж колькасць пар валёнак». (Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф. 32, в. 1, а. з. 4, л. 8).

[2] «Беларус» № 183, 1972.

жадае ёй плёну і росквіту. Але не будзем спяшацца з высновамі. Экс-бургамістр застаўся тым жа злосным ворагам беларускага народа, яго культуры, бо ўвесь сэнс «павучання» гэтага забойцы зводзіцца да аднаго, — калі беларускія паэты і празаікі так «сціснуты ціскамі партыйнасці», «то абставіны мусяць стварыць неабходнасць перайсці і на Беларусі да нелегальнага самавыдавецтва...» [1]

Недарэчна, вельмі смешна слухаць такое плявузганне. Але лёкай ёсць лёкай. Хлусня, перакручванне фактаў, антыкамунізм паказваюць усю іх сістэму падману і ашуканства. Ідэалагічныя стэрэатыпы, якія распаўсюджваюцца нацыяналістычным друкам, адлюстроўваюць стандартныя і найбольш ужываемыя прыёмы масавай прапаганды новых хлебадаўцаў — заакіянскіх гаспадароў: любымі ідэалагічнымі дыверсіямі ўздзейнічаць на грамадскую думку, выдаць чорнае за белае, уцерціся ў давер народу. Яны паўтараюць хлуслівыя выдумкі пра заняпад савецкай эканомікі, пра «адхіленне ад партыйнасці, ідэйнасці, народнасці, метаду сацыялістычнага рэалізму» таго ці іншага пісьменніка. «Спецы» па беларускай літаратуры называюць некаторых пісьменнікаў нават... сваімі хлопцамі, даўшы пры гэтым, праўда, некалькі «парад», як пісаць далей і пра што пісаць...

Такое бессаромлівае і наскрозь хлуслівае

[1] «Беларус» № 183, 1972.

заігрыванне фашысцкіх халуёў з нашымі паэтамі і празаікамі заўсёды выклікала справядлівае абурэнне. У 30-я гады сцяганосец беларускай літаратуры Янка Купала, напрыклад, прачытаўшы ў нацыяналістычных газетах «Беларуская крыніца» (20.11.1931 г.) і «Беларускі звон» (26.11.1931 г.) аб «заступніцтве» здраднікаў, з пачуццём пякучага гневу пісаў: «Вашай апекі і вашага заступніцтва мне не патрэбна. З боку Камуністычнай партыі і Савецкай улады як карыстаўся, так і карыстаюся самымі прыхільнымі і ўважлівымі адносінамі. Жыву я пад аховай законаў дыктатуры пралетарыяту, законаў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, і ўмешванне ў маё жыццё з боку зарубежнай белагвардзейшчыны буду заўсёды разглядаць як самую злосную правакацыю.

Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, у якой я жыву і працую, вядзе ў цеснай братняй сувязі з усім Савецкім Саюзам вялікае, нечуванае ў свеце сацыялістычнае будаўніцтва. У гэтым будаўніцтве я прымаю і буду прымаць самы шчыры ўдзел, не зважаючы ні на якія зламысныя выпады беларускіх і іншых контррэвалюцыянераў-фашыстаў» [1].

Сэрца народнага песняра заўсёды гнеўна пратэставала і супраць выкарыстання ў правакацыйных мэтах яго юбілеяў. У лісце

---

[1] «Звязда», 2 красавіка 1932 г.

ў рэдакцыю газеты «Савецкая Беларусь» Янка Купала пісаў, напрыклад: «Беларускія нацыянал-фашысты, робячы справу... сусветнага імперыялізму, стараюцца выкарыстаць і мой пяцідзесяцігадовы юбілей для сваіх агідных правакацыйных мэт. Яны распаўсюджваюць чуткі, што нібыта бальшавікі прымушалі мяне пісаць, як пішу я цяпер.

Я з абурэннем адкідваю гэтую фашыстоўскую хлусню і ўсякія плёткі аб тым, што я калі-небудзь быў працiўнікам Камуністычнай партыі і Савецкай улады.

Я пратэстую супраць юбілейнага фарсу, які наладжваюць у мой гонар тыя, чые рукі ў крыві працоўных» [1].

Станкевічы і Сіняк і дагаварыліся нават да таго, што лічаць цяпер Янку Купалу... прарокам, правадыром усяго нацыянальнага адраджэння і г. д.[2]. Таму хочацца ўспомніць абуральныя радкі Янкі Купалы, напісаныя ім у лісце буржуазна-нацыяналістычнаму часопісу «Шлях моладзі», які выдаваўся ў Вільні ў 1928—1939 гадах: «Я катэгарычна патрабую зняць вершы і мой подпіс, якія ўзяты так жульніцкі і нахабна і пастаўлены поруч з ненавіснай мне буржуазна-нацыяналістычнай «пагоняй» [3]. Гэтыя словы Янкі Купалы актуальна гучаць і сёння.

---

[1] «Савецкая Беларусь», 10 верасня 1932 г.

[2] «Беларус», ліпень 1974 г.

[3] Янка Купала. Публіцыстыка. Мінск, 1972, стар. 230.

У артыкуле «Наш доўг» сцяганосец беларускай літаратуры заклікаў паэтаў і празаіка весці бязлітасную барацьбу з «белагвардзейскім фузам», заўсёды пратэставаць супраць хлуслівага голасу адшчапенцаў. Гэта добры запавет. Беларускія пісьменнікі, следуючы яму, рашуча выкрываюць і адкідваюць хлуслівае, цынічнае «заступніцтва» «дарагіх землякоў», як агіднае непатрэбства.

«Мяне абурылі тыя каментарыі і тлумачэнні п'есы, — піша ў артыкуле «Адказ паклёпнікам» Андрэй Макаёнак, — якія былі выказаны ў некаторых артыкулах газеты (маецца на ўвазе «Бацькаўшчына» — І. С.). Як у крывым люстэрку, там скажаюць мае творчыя пазіцыі і, несумленна вырываючы рэплікі з п'есы, адвольна, па-свойму, тэндэнцыйна тлумачаць яе, нічога не сказаўшы пра галоўнае ў камедыі — пра яе партыйную накіраванасць, дэмакратычны характар, ідэйны пафас — душу твора» [1].

**Мы б не лічылі ўсё маной,**
**Ды верыць не прыходзіцца,**
**Бо праўда з вашай балбатнёй,**
**Як бачыце, не сходзіцца,** — дасціпна піша ў вершы «Не сходзіцца...» [2] Міхась Скрыпка.

---

[1] «На задворках». Мінск, 1970, стар. 103.
[2] Там жа, стар. 176.

Беларускія паэты і празаікі, драматургі і крытыкі, творча карыстаючыся марксісцка-ленінскім філасофскім метадам, адлюстроўваюць у сваіх творах трывалы і моцны ў сваёй ідэйнай аснове сацыялістычны спосаб жыцця, высокую маральную чысціню савецкага чалавека, палітыку Камуністычнай партыі — арганізатара і натхняльніка ўсіх нашых перамог. Гэта іх магістральны напрамак, напрамак адзіны і беспаваротны. Нашы паэты і празаікі Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Васіль Быкаў, Анатоль Вярцінскі, Ніл Гілевіч, Іван Пташнікаў, Барыс Сачанка, Іван Чыгрынаў пішуць у артыкуле «Не вам беларусамі звацца»: «Вашы спадзяванні на ідэалагічныя дыверсіі дарэмныя. Іх ніколі не будзе. Смешна слухаць плявузганне,.. якое прынясуць нам з Захаду былыя паплечнікі гітлераўскіх галаварэзаў, адданыя служакі доларавага мяшка. Выбачайце, панове, мы таго заходняга шчасця паспыталі даволі, мы таго «новага парадку» і цяпер забыць не можам. Не высахлі яшчэ ў нашых матак слёзы, не зажылі ў нашых бацькоў раны... Не называйцеся беларусамі — вы гэтага не заслужылі» [1].

[1] «Звязда», 15 кастрычніка 1966 г.

